СКОРО ОТКРЫТИЕ!!!
ЗАО «Доброном» УНП 191178504

Доброном КОПЕЕЧКА
Сеть магазинов «Доброном» и дискаунтеров «Копеечка»
В СВЯЗИ С ОТКРЫТИЕМ НОВЫХ МАГАЗИНОВ по адресу: г. Сморгонь, ул. Юбилейная, 25, пом. 2
приглашает на постоянную РАБОТУ
• ДИРЕКТОРА МАГАЗИНА з/п от 1200 до 1500 руб.
• ЗАВЕДУЮЩИХ ОТДЕЛОМ з/п от 650 до 900 руб.
• СТАРШИХ КАССИРОВ з/п от 600 до 850 руб.
• КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 550 до 750 руб.
• ПРОДАВЦОВ з/п от 550 до 750 руб.
• ГРУЗЧИКОВ з/п от 550 до 750 руб.
• УБОРЩИКОВ СЛУЖЕБНЫХ ПОМЕЩЕНИЙ з/п от 400 до 550 руб.
Мы предлагаем ВАМ:
бесплатное обучение для кандидатов без опыта работы • стабильность компании и уверенность в завтрашнем дне • соц. пакет и высокую мотивацию труда • карьерный рост • всем сотрудникам нашей компании предоставляется дисконтная карта с 6% скидкой в сети магазинов «Доброном»
Контактные телефоны: (8-029) 388-43-61, (8-029) 388-70-53


Отделка балконов «под ключ». Отделка теплых откосов. Халва РАССРОЧКА

ДВЕРИ ВХОДНЫЕ

ОКНА ПЛАСТИКОВЫЕ

OKNADOORS.BY +375 29 +375 33 625 95 35 скидка на все 15%

АЛМИ СЕТЬ МАГАЗИНОВ
Сеть магазинов «АЛМИ»
приглашает на работу в Молодечно
• ПРОДАВЦА
• КОНТРОЛЁРА-КАССИРА
• ГРУЗЧИКА
• ИЗГОТОВИТЕЛЯ П/Ф
• ПОВАРА
НАШИ ЗАРПЛАТЫ СТАЛИ ВЫШЕ!!!
СОТРУДНИКАМ: достойный уровень зарплаты, доплата за стаж, расширенный соц. пакет, предварительное обучение и стажировка
Отдел персонала: (8-017) 308-16-02 (8-044) 755-97-72 (8-044) 599-76-24
ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

КУП «Сморгонский ЛМЗ» (г. Сморгонь, ул. Гагарина, 51) ПРИГЛАШАЕТ НА РАБОТУ:
• МАСТЕРА УЧАСТКА в литейный цех
• УЧЕНИКОВ ЗАЛИВЩИКА МЕТАЛЛА, ОБРУБЩИКА (обучение на рабочем месте)
Заработная плата – по результатам собеседования. Возмещаем расходы на проезд к месту работы и обратно.
Справки по тел. (8-01592) 24-9-84, 24-9-86, (8-029) 191-95-97 (с 8.00 до 17.00)
УНП 500133809

ISSN 1991–7155

Адсканчуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/


Рэгіянальная газета. Rh.by
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
16 жніўня 2019 года №33 (1268) 18+

# Адметная фабрыка «Сакавіца» можа знікнуць

старонка 2

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.







ООО «Вторая оконная» УНП 692023471
мастер ОК! Строительные работы под ключ
САЙДИНГ И КРЫШИ
Монтаж любой сложности
Любые расцветки
Утепление домов
РАССРОЧКА И КРЕДИТ без первоначального взноса
+375(33) 330 28 88
+375(29) 330 22 88

ОСТРОВ чистоты
Дискаунтер «Остров чистоты» в связи с открытием новых магазинов ПРИГЛАШАЕТ НА РАБОТУ:
• ЗАВЕДУЮЩИХ ТОРГОВЫМ ОБЪЕКТОМ;
• ПРОДАВЦОВ-КАССИРОВ;
• АДМИНИСТРАТОРОВ ТОРГОВОГО ЗАЛА (охранник-грузчик).
Контактный телефон: (8-044) 766-23-28
ЧУП «ЗападХимТорг» УНП 590828825

## У Маладзечне цягнік насмерць збіў 14-гадовага хлопчыка

старонка 4

# Адметная фабрыка «Сакавіца» можа знікнуць

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці можна знайсці вінаватых у развале былой фабрыкі мастацкіх вырабаў, вырашаць праваахоўныя органы. Уласнік вінаваціць апошняга дырэктара, дырэктар ківае на заснавальнікаў. Меркаванні былых работнікаў падзяліліся.**

На 14 жніўня 528 чалавек падпісалі петыцыю на сэрвісе petitions.by «Выратуйце фабрыку ў Маладзечне». Аўтары петыцыі заклікаюць, каб фабрыкай, што нясе нацыянальную ідэю, кіравалі зацікаўленыя ў захаванні беларускіх традыцый людзі. Просяць падтрымаць інтарэсы працоўнага калектыву і захаваць профіль прадпрыемства.

Подпісы будуць збіраць да 29 жніўня, пасля чаго зварот накіруюць у Маладзечанскую пракуратуру, райвыканкам, Мінаблвыканкам.

### Чаму «Сакавіца» адметная

Фабрыка – не першае прадпрыемства ў горадзе, дзе ёсць фінансавыя і іншыя праблемы. Але ў адрозненне ад іншай прамысловасці, тут істотна меншыя аб'ёмы.

Іншы момант – тут вырабляюць унікальныя рэчы з ільну – сувенірных лялек, бялізну і ручнікі з вышыўкай. Яны ўвасабляюць традыцыйную беларускую культуру і з'яўляюцца адметнымі сувенірамі.

Адзіны акцыянер ЗАТ «Сакавіца» – грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры». У 2018 годзе заснавальнікі прынялі дырэктарам **Сяргея Сабалеўскага**.

### Як разгарэўся скандал

У студзені на прадпрыемстве адключылі электрычнасць праз няўвыплаты. Пасля размовы са старшынёй райвыканкама дамовіліся аб выплатах, і электрычнасць далі. Праз месяц адключылі ўжо канчаткова.

Паколькі на прадпрыемстве працаваць было немагчыма, майстрыі выконвалі заказы дома. На Нацыянальным фестывалі прадэманстравалі калекцыю адзення з ільну, вырабілі сувенірныя ручнікі да II Еўрапейскіх гульняў.

У ліпені выйшлі два відэаролікі на ютуб-канале «Краіна для жыцця» аб сітуацыі на фабрыцы. Аўтар **Сяргей Ціханоўскі** паразмаўляў з дырэктарам Сяргеем Сабалеўскім і некаторымі супрацоўнікамі. Так як на просьбы «РГ» аб каментары Сабалеўскі не адказаў згодай, яго пазіцыю мы высвятлялі з гэтых ролікаў і іншых інтэрв'ю.

На яго думку, сітуацыю фабрыкі пагаршалі абавязковыя выдаткі для фонду. На відэа ён заяўляе, што на момант яго прыходу не хапала абсталявання, што пералічэнні ў бок фонду былі больш за 12 тысяч рублёў у крызісны 2018 год. Сабалеўскі кажа на камеру, што бачыць у гэтым з боку фонду не безгаспадарлівасць, а наўмысныя дзеянні, якія і прывялі да цяжкага становішча «Сакавіцы». І што хтосьці з прадстаўнікоў фонду прапаноўваў яму давесці фабрыку да банкруцтва, каб пасля выкупіць за капейкі.

### Фонд: усё наадварот

Старшыня Беларускага фонду культуры **Тадэвуш Стружэцкі** пагадзіўся на размову, спасылаючыся на афіцыйныя дакументы.

Першы – прэтэнзія да блогера Сяргея Ціханоўскага за распаўсюджанне непраўдзівай інфармацыі ў відэа. Аўтары прэтэнзіі заяўляюць, што абвінавачанні ў бок фонду неабгрунтаваныя і што якраз неправамерныя дзеянні дырэктара прывялі да наўмыснага банкруцтва.

Вось вытрымкі з прэтэнзіі:

«Ад 7 чэрвеня дырэктар адмовіўся ад супрацоўніцтва з заснавальнікамі, уваход на прадпрыемства быў заблакаваны. Нягледзячы на запрашэнні і папярэджанні, не з'яўляўся 1, 8, 15, 22 ліпеня для передачы ключоў, пячаткі, касавага апарата, матэрыяльных каштоўнасцяў і дакументаў. 18 ліпеня частку пераслаў па пошце. 22 ліпеня заснавальнік вырашыў ускрыць памяшканне з удзелам РАУС для інвентарызацыі. Большую частку актуальных дакументаў не знайшлі.

Выказванні аб змове з аўдытарам непраўдзівыя, менавіта Сабалеўскі чыніў перашкоды па передачы дакументаў. Аўдытар знайшла шэраг парушэнняў.

Дэбіторская запазычанасць на 24 мая склала больш за 90 тысяч рублёў. 45 тысяч з іх – перад прадпрыемствам «Экаполіс прадукт», адзіным заснавальнікам якога з'яўляецца Сяргей Сабалеўскі.

Абедзвюма арганізацыямі кіраваў Сабалеўскі, у чым можна ўбачыць здзелку паміж афіляванымі асобамі. На такія здзелкі трэба згода агульнага сходу акцыянераў, інакш можа быць прызнаная несапраўднай.

Крэдыторская запазычанасць склала 209 тысяч рублёў, запазычанасць па зарплаце на 29 жніўня 2018 года – 20 тысяч.

Усе выканаўчыя вытворчасці па прымусовым выкананні судовых рашэнняў узбудзілі толькі за перыяд кіравання Сабалеўскім. Усе факты могуць быць пацверджаныя дакументальна».

Акрамя прэтэнзіі Стружэцкі падаў пратакол пазачарговага сходу акцыянераў «Сакавіцы» аб датэрміновым прыпыненні паўнамоцтваў дырэктара.

Паведамляюць, што падчас інвентарызацыі недалічыліся асноўных сродкаў прадпрыемства, заўважылі адсутнасць часткі маёмасці. Пратэрмінаваныя выплаты па крэдыту банку, ёсць даўгі па падатках.

Вырашылі звольніць Сабалеўскага ад 31 ліпеня.

### Фонд: мы перадаверыліся Сабалеўскаму

Тадэвуш Стружэцкі патлумачыў сваё бачанне канфлікту:

– У 1988 годзе пасля стварэння Беларускага аддзялення савецкага фонду культуры рашэннем урада Маладзечанскую фабрыку мастацкіх вырабаў перадалі для матэрыяльнай падтрымкі статутнай дзейнасці фонду. Сумы былі мінімальныя, фабрыку не абцяжарвалі. У 2017 гэта былі адлічэнні ў памеры 1200 рублёў. Па выніках года па прадстаўленым балансе, падпісаным Сабалеўскім, прыбытак фабрыкі склаў звыш 100 тысяч рублёў. Але і гэту суму фабрыка пералічвала нерэгулярна. Гэтыя сродкі ішлі на выданне «Краязнаўчай газеты» і аплату камунальных затрат для працы невялічкіх двух пакояў фонду ў Мінску.

Дзейнасць фабрыкі звязаная з нацыянальнай культурай – выраб традыцыйнай сувенірнай прадукцыі на базе лёну. Пасля прызначэння дырэктара Сабалеўскага ў нас былі і іншыя ідэі, звязаныя і з профілем фабрыкі, і з накірункамі дзейнасці фонду. Стварыць першую ў краіне спецыялізаваную пральню для чысткі сцэнічных касцюмаў. Сёння кожны творчы калектыў вырашае гэту патрэбу пасвойму. Нацыянальны акадэмічны хор імя Цітовіча мае сотні касцюмаў, якія патрабуюць рэгулярнай хімічнай чысткі і мыцця. Таму такая паслуга была б вельмі запатрабаваная.

Другі праект – рэалізацыя прадукцыі народных майстроў. У нас шмат майстроў, якія робяць выдатныя вырабы, але не могуць прадаваць. Думалі з фабрыкі стварыць дылерскі цэнтр, які б у гэтым дапамагаў.

Перспектывы фабрыкі складаныя. З яе вывезлі абсталяванне на іншае прадпрыемства Сабалеўскага. Вывезлі незаконна, хаця Сабалеўскі будзе даказваць, што афармілі дагавор. Але гэта пытанне ён не ўзгадніў з заснавальнікам. З фабрыкі вывезлі ўсю тэхнічную дакументацыю. Пры інвентарызацыі фабрыкі мы не знайшлі актуальнай дакументацыі. Значыць, яе выкарыстоўваюць на прыватным прадпрыемстве Сабалеўскага. Туды перавялі і невялікую частку былых работнікаў «Сакавіцы».

Большасць супрацоўнікаў звольнілі. На час прызначэння Сабалеўскага там працавалі 62 чалавекі.

У памяшканні адключаная электрычнасць. У судовага выканаўцы 25 судовых актаў на суму 304 тысячы рублёў. У першую чаргу трэба выплаціць гэту запазычанасць. Ёсць арышты не толькі на абсталяванне, але і на маёмасць – гаражны комплекс, будынак. У бліжэйшыя месяцы мусім вырашаць гэтыя праблемы.

Каб аднавіць працу, трэба разлічыцца з даўгамі. Частка з іх неправамерна перакінутая з прыватнага прадпрыемства Сабалеўскага на «Сакавіцу», гэта нам спатрэбіцца даказаць праз суд, таму што дакументы вывезеныя, а, магчыма, і знішчаныя. Спадзяюся, адновім, бо ад мінулага года вялі электронную сістэму бухгалтарскага ўліку.

Падчас аўдытарскай праверкі знаходзілі новыя факты неправамернай дзейнасці Сабалеўскага – калі звярталіся з лістом як гендырэктар «Сакавіцы» ў арганізацыі аб пералічэнні сродкаў ад выручкі на прыватнае прадпрыемства «Экаполіс прадукт». Усе афіляваныя здзелкі мы разгледзім у судзе. Ён будзе вымушаны гэтыя грошы вярнуць, а яны пойдуць на пакрыццё даўгоў паісках.

Усе супрацоўнікі на сёння звольненыя Сабалеўскім. Многія факты сталі нам вядомыя ў час аўдытарскай праверкі.

Мы давяралі чалавеку як дырэктару, якога прызначылі. Калі ўбачылі, што сітуацыя на «Сакавіцы» сур'ёзная, адразу ж прызначылі аўдытарскую праверку. З ёй Сабалеўскі адмовіўся супрацоўнічаць.

У кастрычніку мінулага года выканкам фонду заслухаў справаздачу Сабалеўскага. Падтрымалі падыходы па распрацоўцы новых відаў прадукцыі і мадэрнізацыі прадпрыемства. Усё выглядала добра, і падстаў нешта западозрыць не было.

У сітуацыі будуць разбіраць праваахоўныя органы.




Фота sakavitsa.ibiz.by

Лялька з ільну – адзін з вырабаў «Сакавіцы».

**Ад рэдакцыі**
Рэдакцыя гатова даць слова ўсім зацікаўленым у сітуацыі бакам. Звяртайцеся ў рэдакцыю праз адрас **regionnews@rh.by.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота з архіва РГ.

На свяце юшкі летась.

# Прапаноўвалі палёт на паветраным шары і фаст-фуд у аўтобусе

## З якімі ідэямі вілейчукі звярталіся да арганізатараў фэсту юшкі

ВІЛЕЙКА

**17 жніўня на гарадскім пляжы Вілейскага вадасховішча зладзяць чарговы «Юшка-фэст». Свята пачнецца ў 13:00.**

Фішкай сёлетняга свята стала тое, што вілейчукі маглі прапанаваць арганізатарам свае ідэі для правядзення.

– Цікавых ідэй было шмат, – расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» старшыня таварыства «ЗОВіК» **Таццяна Цітуленка**, – Але не ўсе мы зможам увасобіць.

Прапанавалі зладзіць палёт на паветраным шары. Аднак для такой ініцыятывы трэба вылучыць пляцоўку мінімум 50 на 50 метраў. А месца на гарадскім пляжы няшмат.

А вось прапанову фаст-фуда ў аўтобусе, хутчэй за ўсё, увасобяць. Днямі паедуць глядзець, куды лепш паставіць такі аўтобус.

Некаторыя прапановы былі платныя. Аднак бюджэт фестывалю і так невялікі, таму ад іх адмаўляліся, кажа суразмоўца.

– Прыемна, што ў гэты раз ад людзей адчувальна толькі пазітыў. Няма ніякай крытыкі свята ў сацсетках, – падзялілася Таццяна Цітуленка.

### Што чакае наведнікаў «Юшка-фэсту»

- Майстар-клас па прыгатаванні юшкі ад Вілейскага дзяржаўнага каледжа
- водныя забегі для розных узростаў
- спартыўныя спаборніцтвы
- інтэлектуальныя конкурсы
- гульнявыя пляцоўкі
- гандлёвыя рады
- водная фіерыя ад МНС
- выступленні спевакоў і музычных гуртоў
- конкурс караоке
- акцыя «Добры ровар»
- конкурс па паяданні пельменяў
- конкурс лозаплецення сярод майстроў
- феерверк на вадзе
- прэзентацыя экалагічных падвор'яў ад сельвыканкамаў
- апытанне наведнікаў пра тое, што зрабіць, каб Вілейшчына стала больш экалагічнай.

А яшчэ, калі вы прыйдзеце на свята са сваім кубкам, вам бясплатна нальюць у яго квас.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Сёлета сорак чалавек адкрылі дэпазіты на сямейны капітал на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Ад пачатку дзеяння праграмы сямейнага капіталу ў 2015 годзе 362 жыхары Вілейшчыны.**

У тым ліку сёлета адкрылі дэпазітныя рахункі па дзесяць тысяч долараў кожны сорак чалавек, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Сямейны капітал прызначаецца ў выглядзе аднаразовай выплаты ў памеры дзесяці тысяч долараў пры нараджэнні (пасля 1 студзеня 2015 года) трэцяга і наступных дзяцей.

Праграма завяршаецца сёлета 31 снежня, аднак цяпер разглядаецца пытанне, каб яе працягнуць.

Таксама Мінпрацы і сацыяльнай абароны сумесна з Мінбудархітэктуры і іншымі ведамствамі распрацоўваюць праект указа, якім уносяць некаторыя змены ў парадак выкарыстання сродкаў сямейнага капіталу.

Адна з прапаноў – магчымасць датэрміновага выкарыстання грошай на будаўніцтва жылля для шматдзетных.

Пакуль што права распараджэння сродкамі сямейнага капіталу надыходзіць пасля дасягнення дзіцем 18 гадоў. Выкарыстоўваць іх можна на паляпшэнне жыллёвых умоў, паслугі ў сферы адукацыі, медыцыны, сацыяльнага абслугоўвання, а таксама назапашвальную пенсію маці.

Акрамя таго, можна выкарыстоўваць капітал датэрмінова на атрыманне платных медыцынскіх паслуг ва ўстановах аховы здароўя па пераліку і на ўмовах, зацверджаных Міністэрствам аховы здароўя.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.08 | 15.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0487 | **2.0415** |
| Еўра | 2.2927 | **2.2819** |
| Злоты, 10 | 5.3073 | **5.2444** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1481 | **3.1296** |
| Грыўня, 100 | 8.0681 | **8.0799** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 7.08 | 14.08 |
| Еўра | 2.2800/2.3050 | **2.2600/2.2880** |
| Долар ЗША | 2.0400/2.0570 | **2.0230/2.0450** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 7.08 | 14.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,39** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **4,10** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,58** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,40** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **2,00** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **1,45** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,30 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,70 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,96** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Лісічкі, 500 мл | 2,00 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 1,30 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 3,90 | **1,60** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,10** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 2,80 | **2,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Брусніцы, 500 мл | 2,00 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,30** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Слівы, 1 кг | 2,30 | **3,50** |
| Чарнаслоў, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Чарніцы, 500 мл | 2,00 | **2,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ МИНСКОГО ОТДЕЛЕНИЯ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ

КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ

г. Молодечно, ул. Буховщина, 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 55 46 64, 55 46 67, 8 (029) 635 35 74
E-mail: tppm-mo@tppm.by

Молодечненский филиал Минского отделения БелТПП оказывает услуги по экспертизе и оценке - www.tppm.by

УНП 100144204

## У Маладзечне п’яны сын пагражаў забіць 55-гадовую маці

55-гадовая маладзечанка паведаміла ў міліцыю, што мінулай ноччу п’яны сын здзекаваўся з яе, біў і катаваў. Патэлефанаваць у міліцыю і расказаць аб тым, што здарылася, жанчына змагла толькі праз 12 гадзін.

Інцыдэнт адбыўся ў гарадской кватэры, дзе маці з сынам жывуць разам. У гэту кватэру міліцыянеры не раз прыязджалі супакойваць 29-гадовага сына.

На гэты раз, вярнуўшыся дадому позняй ноччу нападпітку, малады чалавек зноў стаў тэрарызаваць маці. Схапіўшы кухонны нож, крычаў «буду рэзаць цябе».

Жанчына ніколі не сутыкалася з такой агрэсіяй сына, таму пагрозу на гэты раз успрыняла рэальна. Спрабуючы вырвацца з яго рук, маці парэзала палец, а наўздагон атрымала ўдары па галаве.

Аказалася, сыну не хапала грошай на выпіўку. Ён душыў маці бінтам, заломваў пальцы на руках.

Жанчына не магла ні патэлефанаваць у міліцыю, ні звярнуцца да суседзяў. Заставалася адзінае – даць грошай, распавялі карэспандэнту ў Маладзечанскім РАУСе.

Праваахоўнікі высветлілі, што ў апошні час мужчына прыахвоціўся да алкагольных напояў і гульні ў анлайн-казіно.

Абразы і скандалы, аж да страты прытомнасці, сталі «нормай жыцця» ў гэтай кватэры. З-за сына-дзябашыра маці стала баяцца начаваць ва ўласным доме.

У дзеяннях мужчыны ўгледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 186 КК Рэспублікі Беларусь «Пагроза забойствам». Матэрыялы праверкі перададзены маладзечанскім следчым.

**Паводле Маладзечанскага РАУС.**

## На Астравецкай АЭС памёр кранаўшчык з Чысці

У аўторак, 13 жніўня, на будоўлі Астравецкай АЭС памёр кранаўшчык. Цела мужчыны, які быў супрацоўнікам адной з арганізацый-падрадчыкаў, знайшлі іншыя рабочыя раніцай. Загінуламу 53 гады, ён працаваў у арганізацыі мінскай «Белэлектрамантажналадкі», жыў у Чысці Маладзечанскага раёна. У яго трое дарослых дзяцей.

**Паводле «Радыё Свабода».**



Фота забяспечанае прэс-службай МУС.

На месцы здарэння.

# У Маладзечне 14-гадовага хлопчыка насмерць збіў цягнік

**14 жніўня ў Маладзечне пасажырскі цягнік насмерць збіў 14-гадовага хлопчыка на чыгуначным пераездзе.**

Як паведамляе прэс-служба МУС, трагедыя адбылася раніцай у 10 гадзін. Васьмікласнік пераязджаў чыгуначныя пуці па ровары па пешаходным насціле.

**Андрэй М.** быў выхаванцам маладзечанскай хакейнай школы. Па словах яго трэнера **Аляксандра Граковіча,** гэтай раніцай хлопец ехаў на трэніроўку.

Хлопчык прапусціў штадлер, які рухаўся ў напрамку Маладзечна, але не заўважыў набліжэнне пасажырскага цягніка Гродна-Мінск, які ішоў у сустрэчным кірунку.

Хлопец быў у навушніках, ён працягнуў рух і трапіў пад цягнік. Ад атрыманых траўмаў падлетак памёр на месцы.

У канцы мая на Маладзечаншчыне ўжо быў смяротны выпадак на чыгуначным пераездзе. Тады 11-гадовы школьнік загінуў ля станцыі Уша.

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Валожынская міліцыя шукае мясцовага жыхара



9 жніўня каля 12 гадзін **Л.В. Радына** сышоў з дому ў невядомым накірунку, да цяперашняга часу не вярнуўся і яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд 70 гадоў, рост каля 170 см, сярэдняга целаскладу, валасы сівыя, коратка стрыжаныя, носіць бараду і вусы, гаворка часам невыразная, памер абутку 42.

Асаблівыя прыкметы: шнар на левай шчацэ каля 1 см, бяльмо на правым воку (аслеп), са слабым слыхам.

Валожынская міліцыя просіць людзей, якім што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Лявонція Радыны, паведаміць па тэлефонах: **(8-01772) 5-53-02, (8-01772) 54021, (8-029) 685-53-02, (8-029) 827-66-40, (8-029) 152-22-98.**

## Шукаюць 78-гадовую жыхарку Ашмяншчыны



19 ліпеня каля 9:30 жыхарка Ашмяншчыны 78-гадовая **Я.С.Стасяловіч** выйшла са свайго дома і пайшла ў грыбы.

Прыкметы: на выгляд 75-80 гадоў, сярэдні рост і целасклад, авальны твар, карыя вочы.

Калі нехта ведае пра месцазнаходжанне зніклай, следчыя просяць паведаміць у Ашмянскі РАУС па тэлефоне **(8-01593) 4-44-42** або ў Ашмянскі РАСК – **(8-01593) 7-12-54.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечанец краў у знаёмых рэчы і здаваў у ламбард

У Маладзечанскі РАУС звярнулася 44-гадовая гараджанка і паведаміла аб знікненні ювелірных вырабаў, якія ацаніла ў восемсот рублёў. Праваахоўнікі высветлілі, што на днях у кватэры гасцяваў 22-гадовы прыяцель сына. Раніцай у кватэры не аказалася ні самога госця, ні ювелірных вырабаў.

У міліцыю паступілі яшчэ дзве заявы. 40-гадовая мясцовая жыхарка распавяла, што з кватэры зніклі залатыя ўпрыгажэнні і бытавая тэхніка на агульную суму больш за 3300 рублёў. Па яе словах, рэчы зніклі паступова, таму гаспадыня не адразу заўважыла іх адсутнасць. У другім выпадку, з кватэры скралі наручны гадзіннік коштам трыста рублёў.

Аператыўнікі ўстанавілі, што ва ўсіх гісторыях фігуруе адзін і той жа малады чалавек. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі падазраванага.

**Маладзечанец распавядаў сябрам і іх блізкім, што ў яго не скláліся адносіны з бацькамі. Карыстаючыся даверлівасцю людзей, фігурант заставаўся пажыць у прыяцеляў – у каго дзень-два, у каго і цэлы месяц.**

Пакуль да хлопца ставіліся як да другога сына, ён краў чужую маёмасць і здаваў у ламбард. Атрыманыя грошы фігурант марнаваў на асабістыя патрэбы і стаўкі ў букмекерскай канторы.

У дачыненні да зламысніка распачатыя крымінальныя справы па артыкуле «Крадзеж». Выкрадзеную маёмасць праваахоўнікі канфіскавалі ў гарадскіх ламбардах. У той жа час яго бацькі былі ўпэўненыя, што сын працуе ў сталіцы барменам і шмат зарабляе.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Смаргоні эвакуіравалі людзей з чыгуначнага вакзала з-за сумкі

Днём у панядзелак, 12 жніўня, на чыгуначнай станцыі ў Смаргоні знайшлі безгаспадарную сумку. У мэтах бяспекі эвакуіравалі людзей.

Пра знаходку ў Смаргонскі РАУС паведаміла дзяжурная па чыгуначным вакзале. На месцы працавалі следча-аператыўныя і сапёрна-піратэхнічныя групы, МНС, медслужбы. Праваахоўнікі эвакуіравалі работнікаў і наведнікаў станцыі.

У выніку выбухованебяспечныя і іншыя падазроныя прадметы не выявілі.

**Аказалася, што ў заплечніку былі прадукты харчавання. Цяпер іх уладальніка шукаюць.**

Чыгуначны вакзал працуе ў штатным рэжыме, паведамілі ў прэс-службе УУС Гродзенскага аблвыканкама.

**Паводле vgb.by.**

# Вярнуліся сытыя, задаволеныя і з булачкамі на сняданак

## Як наша сям'я павячэрала ў піцэрыі «Пінгвін»

МАЛАДЗЕЧНА

**Нядаўна з сям'ёй вырашылі павячэраць у піцэрыі. Абралі тую, што бліжэй да дома – «Пінгвін» на Вялікім Гасцінцы, 161.**

А каб нашы любімыя чатыры піцы з салямі былі гатовыя дакладна ў 18:00, патэлефанавалі ў піцэрыю і зрабілі замову на гэты час. Такая зручная паслуга ўжо даўно дзейнічае ў «Пінгвіне».

### У Маладзечна па піцу едуць з суседніх гарадоў

Дзеці адразу зацанілі вялікае памяшканне і яркую мэблю. Нам з мужам спадабалася прыемнае і хуткае абслугоўванне. А смачныя піцы з натуральных прадуктаў мы зацанілі яшчэ нашмат раней.

Нездарма ў нашы «Пінгвіны», якіх у Маладзечне сёння ўжо чатыры, едуць наведнікі з Вілейкі, Валожына, Краснага. Туды ж работнікі піцэрыі возяць піцу на замову. У Маладзечна і суседнія гарады піцы замаўляюць на дзіцячыя дні нараджэння, выпускныя ў садках і пачатковай школе.

– Наведнікі з іншых раёнаў па звычцы едуць да нас на Прытыцкага, – расказаў гаспадар піцэрыі **Алег Багнюк**. – Але хочацца, каб яны даведаліся і ацанілі новую, чацвертую піцэрыю, што нядаўна адчынілася на Вялікім Гасцінцы, 161.

### Чаму піц з салямі пякуць больш

Аказалася, што піцу з салямі любім не толькі мы. Яна – самая любімая ў большасці наведнікаў. Таму піц з салямі, курыцай і «Апетытных» тут заўсёды стараюцца спячы больш.

Для школьнікаў і студэнтаў ёсць бюджэтны варыянт піцы з салямі – «Студэнцкая». Яна каштуе каля двух рублёў. І кошт не мяняецца ўжо паўтара года.

...Калі мы, сытыя і задаволеныя, ужо збіраліся сыходзіць, дзеці заўважылі, што ў піцэрыі з'явіліся булачкі – з макам, з карыцай, са згушчонкай. Булачкі – навінка «Пінгвіна». Каб парадаваць наведнікаў свежай выпечкай, повары і кандытары прыходзяць на працу ў пяць раніцы.

### У піцэрыі з'явіліся булачкі

– З булачкамі і піражкамі трэба займацца больш, – кажа Алег Багнюк. Каб прыгатаваць піцу, трэба 15 хвілін, а каб зрабіць булачкі – гадзіна. Дражджавое цеста павінна пастаяць, падысці. Пасля ад рулета трэба адрэзаць шмат кавалачкаў аднаго памеру і кожны ўзважыць.

Таму мы, павячэраўшы піцай, набралі сабе булачак на сняданак.

**Атрымалася вельмі бюджэтна: цэны на булачкі – ад 36 да 66 капеек.**

Іх пякуць на Вялікім Гасцінцы і развозяць у тры іншыя піцэрыі

Кандытар Наталля Панарад толькі што дастала з духоўкі свежыя булачкі.

Застаецца толькі дадаць, што піцэрыя мае інстаграм **pizzeria_pingvin.molodechno** і старонку «УКантакце». Зазірніце: там шмат цікавых конкурсаў і розыгрышаў.

А пакуль вы чыталі гэты артыкул, у «Пінгвіне» ўжо прыгатавалі чарговыя свежыя піцы. Завітвайце.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

**Адрасы і тэлефоны ў Маладзечне:**

**«Пінгвін 1», вуліца Прытыцкага, 10**
тэлефоны: (8-0176) **77-77-51**
(8-029) **157-77-24**

**«Пінгвін 2», вуліца Скарыны, 10-а**
тэлефоны: (8-0176) **53-83-40**
(8-029) **157-77-28**

**«Пінгвін 3», вуліца Талстога, 14-а**
тэлефоны: (8-0176) **77-18-54**
(8-029) **157-77-29**

**«Пінгвін 4», вуліца Вялікі Гасцінец, 161**
тэлефоны: (8-0176) **52-79-77**
(8-029) **144-11-21**

ПУП «Зліамарт» УНП 690244174

## Маладыя дактары прыехалі працаваць на Вілейшчыну

ВІЛЕЙКА

У Мацькаўскай і Нарочкай амбулаторыях – новыя фельчары, а ў Шылавіцкім – загадчык.

Маладыя спецыялісты працуюць ад першага жніўня. Усе трое – з Вілейкі і Вілейскага раёна, выпускнікі Віцебскага дзяржаўнага медуніверсітэта.

**Аляксандр Ганчароў** – доктар-анестэзіёлаг-рэаніматолаг.

У педыятрычным аддзяленні паліклінікі з'явіўся новы ўчастковы доктар-педыятр **Дыяна Раманоўская**.

Доктар агульнай практыкі **Таццяна Ляшкевіч** размеркавалася ў медыцынскую лабараторыю ў Людвінова на пасаду загадчыцы.

У супрацьтуберкулёзным кабінеце цяпер працуе новы спецыяліст-фтызіятр **Павел Занкевіч**, ураджэнец Шылавічаў.

А загадчыкам аддзялення «хуткай дапамогі» стаў **Аляксандр Шырочын**, які працаваў тут доктарам.

Яшчэ трое маладых спецыялістаў размеркавалася на раён у ФАПы: фельчары **Любоў Ляшкевіч** і **Дар'я Лях** працуюць у Мацькаўскай і Нарочкай амбулаторыях, **Кацярына Маліноўская** – загадчыца ФАПа ў Шылавічах.

Штат раённай бальніцы спецыялістамі укамплектаваны. Ёсць вакансія доктара ў Іжанскай амбулаторыі.

**Паводле Вілейскага райвыканкама.**

## Жыхарка Якуціі праз «РГ» шукае маладзечанку

Днямі да нас у рэдакцыю прыйшоў ліст з Якуцка. Праз «Рэгіянальную газету» жыхарка гэтага горада **Валянціна Няпомняшчых** шукае маладзечанку **Ганну Ціханаўну Канапельку**.

«Мяне папрасілі дапамагчы ў пошуках сяброўкі, жыхаркі Маладзечна Ганны Ціханаўны Канапелькі, – піша Валянціна. – Яна ў канцы 1970-х працавала ў Якуціі, у сяле Чурапча, на хлебапякарні. Там пасябравала з мясцовай жыхаркай **Зояй Афанасьеўнай Максімавай**. Яны доўгі час падтрымлівалі зносіны, а потым сувязь перарвалася».

Спадарыня Зоя вельмі хвалюецца і хоча знайсці сяброўку з Маладзечна.

Ганна Ціханаўна, калі вы чытаеце гэты артыкул, патэлефануйце, калі ласка, у «Рэгіянальную газету» на нумар (8-0176) 537806.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правядуць фестываль «Самы час»

МАЛАДЗЕЧНА

**Фестываль здаровага ладу жыцця «Самы час» правядуць у амфітэатры ў Маладзечне 24 жніўня ў 12:00.**

Свята стане фінальнай падзеяй ініцыятывы «Самы час!». Асноўная ідэя – фарміраванне сучаснай мадэлі актыўнага даўгалецця, перш за ўсё, сярод мужчын, старэйшых за 45 гадоў. У праграме – майстар-клас і турнір па фінскіх гарадках, скандынаўская хада, ёга, выступленні музычных гуртоў.

Арганізатары чакаюць на фестываль людзей самага рознага ўзросту і раяць прыходзіць на свята сем'ямі. Абяцаюць, што занятак знойдзецца ўсім.

Ініцыятыва – частка маштабнага праекта «БЕЛМЕД», які фінансуецца Еўрапейскім саюзам і рэалізуецца ПРААН, СААЗ, ЮНІСЕФ і ЮНФПА ў партнёрстве з Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Аддзел інфармацыі.**

БАНК ДАБРАБЫТ
КРЕДИТ НА ЛИЧНОЕ
1000 BYN
до 33,2 BYN в месяц
до 60 месяцев
до 30 000 BYN
рассмотрение в течение часа
Расчёт ежемесячного платежа указан по состоянию на 01.08.2019 г. Размер платежа зависит от суммы и срока кредита.
Мы находимся рядом!
г. Молодечно, ул. Волынца, 12
дабрабыт.бел
мтс · velcom · life:)
5 222 111
МОСКВА МИНСК БАНК → БАНК ДАБРАБЫТ → Мы змяніліся, каб быць бліжэй
ОАО «Банк Дабрабыт» УНН 807000002 Лицензия №16 от 28.01.2019 выдана Национальным Банком Республики Беларусь

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую маладзечанскай брыгадзе «хуткай дапамогі», якая працавала ў ноч з 1 на 2 жніўня, і доктару **Сяргею Леанідавічу Спорушу** за прафесіяналізм, уважлівыя і цёплыя адносіны. Жадаю яму добрага здароўя!

**Е.К. Шорац.**

## ВІНШАВАНКА

**Ніне Васільеўне БАЖКО з в. Сечкі**

Даражэнькая мая Ніначка! Віншую цябе з адметным днём у жыцці.

Здароўя табе і божага благаслаўлення.

**Твая сяброўка Геня.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100 С4, 2,5 TДI, 1994 г.в., Маладзечна. Т. (8-029) 6869221.*

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• МАЗ 54322 тягач з 2-восевым прычэпам, даўжыня 12,5 м. Нядорага. Т. Вэлком/А1 (8-029) 9131706.

• Мазда 323F, 1993 г.в., 1,6 бензін. Т. (8-029) 8610280.*

• Ніва, 2005 г.в., 3-дзверная. Новая АКБ, гума. Цалкам абслужаная. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Сітраэн-Ксара,1999 г.в., 1,9 дызель, купэ, цана 4 000. Т. (8-033) 6808429.*

• Таёта-Карола, 2016 г.в., 1,4Б, чорная. Т. (8-029) 3063523.

• Форд-Эскорт, 1991 г.в., 1,4 бензін, выдатны стан, у зварачных работах не мае патрэбы, тэхагляд да снежня, праходзіць без праблем, нічога рабіць не трэба. 1500 рублёў. Т. (8-029) 8632241.

• Форд-Сіера, 1987 г.в., 2,0 бензін, на запчасткі. Т. (8-029) 5062734.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто. Можна аварыйны! Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

• Матацыклы старыя і запчасткі К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна. Т. (8-0176) 725959, Вэлком (8-029) 1171154.*

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра. Тэрмінова! Падрабязнасці па тэлефонах (8-029) 6888111, (8-029) 6333777.*

• Гараж з падвалам у ГБК-2, Вілейка. Т. (8-029) 5650208.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом драўляны ў Смаргоні, 500 м ад чыгуначнага вакзала, участак 19 сотак, водаправод, пячное ацяпленне. Т. (8-029) 5912004.*

• Дом недабудаваны з гаспадарчымі пабудовамі ў Астраўцы. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513686.

• Дом у в.Грыцукі Вілейскага раёна, 7 км ад Вілейкі, участак зямлі 0,25 га. Недалёка вадасховішча, лес. Т. (8-029) 3262613.*

• Дом у вёсцы. Частковыя выгоды. Т. (8-029)7632306, (8-0176) 723235 дамашні.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7609173.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом, 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8598747.*

• Участак 19 сотак, прыватызаваны, ёсць лазня, падмурак для дома. Станцыя Татаршчызна, чацверты прыпынак ад Маладзечна. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 6511477.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыент. Біялогія. Хімія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Анол С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаны на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

• Піяніна «Беларусь», чорнае, у добрым стане. Т. (8-029) 8616784.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова на выбар у Ілы. 5 год і 2 гады. Абедзве пакрытыя. Т. (8-029) 9803034.

• Цялушка цельная ад высокаўдойнай каровы. Т. (8-0176) 525030, (8-029) 1946909, (8-029) 1275060.*

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Пліты перакрыцця б/у, 1,5х6 м, 2 шт. Т. (8-029) 1419072.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### АДДАМ

• Шчанят (помесь, сярэдняга росту) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згублены ключ ад машыны ў бардовым чахле. Просьба да таго, хто знойдзе чахол, вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-0176) 532838, Вэлком (8-029) 3888224.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу дома. Т. (8-029) 5019550.*


Организация продаёт автомобиль

**ГАЗ 31105 (Волга)**

серебристого цвета, 2007 г.в., объём двигателя 2,4 куб. м, бензин

*1500 рублей без торга*

Обращаться по тел. (8-0176) **70-71-60**

ГУ Республиканский санаторий «Вяжути» УНП 600698861

**СТАНЦИЯ без выходных СТО**

- Ремонт подвесок, глушителей, тормозных систем, ДВС
- Шиномонтаж, балансировка
- Замена ГБЦ, ремней и цепей ГРМ сцепления, рулевых реек, КПП, масла
- Задние балки французских авто
- Развал-схождение, АРГОН

(8-029) **646-14-63,** (8-029) **876-51-17,** (8-033) **669-20-30,** (8-0176) **58-10-30.**

Адрес: *г. Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней)

ИП Жилевич М.В. УНП 692027766

**Аккумуляторы BOSCH**

*а также широкий выбор аккумуляторов других популярных брендов.*

(8-0176) **58-12-48,** (8-029) **63-63-166**

**Принимаем старые АКБ**

СТАРЫЙ НА НОВЫЙ

www.batrix.by

ООО «Батрикс» УНП 691893243

**ОХЛАЖДАЕМСЯ БЕЗ ХЛОПОТ!**

**АНТИФРИЗЫ готовые и концентраты, ТОСОЛ оптом и в розницу ДЁШЕВО!**

(8-0176) **58-12-48** (8-029) **63-63-166**

www.batrix.by

ООО «Батрикс» УНП 691893243

**АККУМУЛЯТОРЫ**

**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**

**продаём новые и покупаем старые**

ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ

*Широкий выбор моторных, гидравлических, индустриальных масел, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости, запчасти к иномаркам*

Тел. (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166. www.batrix.by**

ООО "Батрикс" УНП 691893243

## Беларусь 1

**6.25** «Існасць».

**6.50, 21.45** Х/ф **«ОДНА ЛОЖЬ НА ДВОИХ».**

**8.25** «Кулинарная дипломатия».

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.50** «Здоровье».

**10.45** «Дача» [СТ].

**11.25** «Истории спасения».

**12.10** «Дело жизни. Возрождение». Хроникально-документальный телефильм.

**12.35** Т/с **«ЖЕНЩИНА В ЗЕРКАЛЕ».**

**14.20** «Твое место на кухне».

**15.15** «Краіна».

**15.45** Т/с **«СЛЕД».**

**16.40** Х/ф **«ВЫБИРАЯ СУДЬБУ».**

**21.00** «Панорама».

**0.55** «День спорта».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.40, 21.55** «Телебарометр».

**8.45** Х/ф **«МАДАГАСКАР».**

**10.15** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.00** «Кто я?».

**11.20** «Копейка в копейку».

**12.00** «Камень, ножницы, бумага».

**12.30** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**13.25** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.20** Х/ф **«ЗНАКОМСТВО С ФАКЕРАМИ».**

**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.15** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ПРАЗДНИК».**

**19.50** Х/ф **«СТРЕЛОК».**

**22.00** «Спортлото 6 из 49», КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.50, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 15.10, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Опять двойка». Мультфільм.

**8.45** «Саша-Сашачка». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Спеўная традыцыя міжрэчча вярхоўяў Пціны і Случы (Старадарожскі раён, Мінская вобласць).

**10.25** «Беларуская кухня». Бульбяныя дзедкі.

**10.50** «Каманда 8». Мастацкі фільм.

**14.25** «Навукаманія».

**15.15** «Пясняр. Сэрцам і думамі». Дакументальны фільм памяці Уладзіміра Мулявіна.

**15.50** «Справа «стракатых». Мастацкі фільм [СТ].

**17.30** «Дзесяць фатаграфій». Алег Міцяеў.

**18.10** «Трое сутак пасля бясcмертнасці». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — паэт, гісторык, краязнаўца, літаратуразнаўца, перакладчык Сяргей Чыгрын.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дачная паездка сяржанта Цыбулі». Мастацкі фільм [СТ].

**22.20** «Соф'я Кавалеўская. Дылемы вялікай жанчыны». Гістарыка-біяграфічны фільм.

**23.10** «Архітэктура Беларусі».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** «Вия Артмане. Королева в изгнании».

**9.10** «Любовь Успенская. Почти любовь, почти падение».

**12.30** Т/с **«СПАСТИ МУЖА».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** Творческий вечер Любови Успенской.

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Сегодня вечером».

**22.45** Х/ф **«ЕЛЕНА ПРЕКРАСНАЯ».**

**0.25** «Про любовь».

## СТВ

**6.25** «Легенды СССР».

**7.55** «Анфас».

**8.15** «Самая полезная программа».

**9.05** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**11.05, 13.40** Т/с **«СМЕРШ. ДОРОГА ОГНЯ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**14.35, 16.40** Т/с **«СМЕРШ. КАМЕРА СМЕРТНИКОВ».**

**18.05, 20.05** Т/с **«СМЕРШ. УМИРАТЬ ПРИКАЗА НЕ БЫЛО».**

**19.55** «СТВ-спорт».

**21.40** Документальный спецпроект.

**23.55** Т/с **«БОЕЦ».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10, 7.55, 5.45** Мультфильмы.

**6.20** «Союзники».

**6.55** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**8.55** «Ой, мамочки!».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Х/ф **«АЛЫЕ ПАРУСА».**

**12.35, 16.15, 19.15** Т/с **«ОРЛОВА И АЛЕКСАНДРОВ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.05** «Еда живая и мёртвая».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.05** «Поедем, поедим!».

**14.00** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.40** Т/с **«ШЕФ».**

**23.55** Х/ф **«КТО Я?».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.10** Х/ф **«УЙТИ, ЧТОБЫ ОСТАТЬСЯ».**

**14.10** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**16.15** Х/ф **«СМЯГЧАЮЩИЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

**19.45** «Плюс минус».

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.40** Торжественное открытие Международного конкурса молодых исполнителей «Новая волна-2019».

**0.45** Х/ф **«НЕ ГОВОРИТЕ МНЕ О НЕМ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.35** Ешь, молись, люби. **8.55** Джейн Эйр. **11.15** Лица в толпе. **13.10** Елизавета. **15.25** Золотой век. **20.10** Параллельные миры. **22.10** Эван Всемогущий. **23.55** Случайный муж. **1.40** Королева Испании. **4.10** Семейка Крудс.

### TV1000 ACTION

**7.05** Опасный квартал. **9.05** Наёмник. **11.10** Взрыв. **13.00** Падение Лондона. **14.50** Идеальный побег. **16.35, 5.10** Другой мир. **18.50** Хеллбой: Герой из пекла. **21.10** Хеллбой II: Золотая армия. **23.25** Чистильщик. **1.05** Револьвер. **3.00** Мачете.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.35** Любовь в большом городе 3. **9.10** Вечер накануне Ивана Купала. **10.30** Всё о мужчинах. **12.00** Тёмный мир: Равновесие. **13.45, 0.55** Питер FM. **15.25** Ну, здравствуй, Оксана Соколова! **17.15, 5.30** Напарник. **19.00** Проводник. **20.45** Анна Каренина. История Вронского. **23.20** Блокбастер. **2.30** О чём говорят мужчины. Продолжение. **4.10** Фото на память.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 11.00, 11.45** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 12.45** Х/ф **«АНАКОНДА: ОХОТА ЗА ПРОКЛЯТОЙ ОРХИДЕЕЙ». 14.45** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА 2». 16.30** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 19.00** Х/ф **«УЖАСТИКИ». 21.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 23.00** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА: АНАКОНДА». 0.45** Х/ф **«СИЯНИЕ». 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2». 12.00, 13.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«ПРИИСК 2». 20.00, 21.00** Т/с **«В СТОРОНУ ОТ ВОЙНЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 6.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. 1 с. **7.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. 2 с.

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.20** Х/ф **«ВСЕ ПАРЫ ДЕЛАЮТ ЭТО». 2.35** Х/ф **«ALL INCLUSIVE, ИЛИ ВСЁ ВКЛЮЧЕНО!». 4.25** Х/ф **«ВСЕ ВКЛЮЧЕНО 2». 6.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 8.00** Х/ф **«НЕВЕЗУЧИЕ». 9.55** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 11.45** Х/ф **«SUPERПЕРЦЫ». 14.00** Х/ф **«ДЕЖУРНЫЙ ПАПА». 15.50** Х/ф **«МАРТОВСКИЕ КОТЫ». 17.45** Х/ф **«НЕ ГРОЗИ ЮЖНОМУ ЦЕНТРАЛУ, ПОПИВАЯ СОК У СЕБЯ В КВАРТАЛЕ». 19.30** Х/ф **«РЫБКА ПО ИМЕНИ ВАНДА». 21.35** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 23.25** Х/ф **«ХОЛОСТЯКИ В ОТРЫВЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45** Вероника не хочет умирать. **1.40, 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.40, 6.35, 7.30** Синичка. **8.30, 9.25, 10.25, 11.30, 12.25, 13.25, 14.25, 15.25, 16.20, 17.20, 18.15, 19.15, 20.15, 21.15, 22.15, 23.15** Балабол 2.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **11.20** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **12.20** Х/ф **«ОБЛАЧНО, ВОЗМОЖНЫ ОСАДКИ В ВИДЕ ФРИКАДЕЛЕК». 14.00** Х/ф **«ОБЛАЧНО... 2: МЕСТЬ ГМО». 15.45** Фэнтези «БУНТ УШАСТЫХ». **17.35, 19.20, 20.55, 23.15, 1.15** Прогноз погоды на неделю. **17.40** Фэнтези «КРОЛИК ПИТЕР». Австралия, США. 2018 г. **19.25, 23.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«СЕМЬ ЖИЗНЕЙ». 1.20** Скетч-шоу «МОСГОРСМЕХ». **3.55** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40, 19.10, 2.10** Спорт-микс. **6.50, 11.55, 14.25, 23.00** Гребля на байдарках и каноэ. Чемпионат мира. **9.20** Большой спорт. **10.05** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Превью. **10.35** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Юниоры. Спринт. **13.05** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Юниорки. Спринт. **15.50** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Мужчины. Спринт. **17.15** Тренировочный день. **17.50** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Женщины. Спринт. **19.20** Спорт-центр. **21.20** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Париж.

### EUROSPORT

**0.00, 2.00, 6.00, 9.30** Теннис. US Open. Квалификация. Пятый день. **4.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Обзор. **5.00, 8.00, 18.50** Велоспорт. «Вуэльта»-2018. Обзор. **9.00** Ралли. ERC. All Access. **11.30** Велоспорт. «Джиро-д'Италия». Обзор. **12.30, 16.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Хакуба. HS 131. **14.00** Велоспорт. Binckbank tour. 7-й тур. **14.30** Велоспорт. «Тур де л'Авенир». 9-й этап. **16.00** Летний биатлон. Чемпионат мира. Минск. Мужчины. Спринт. **17.50** Летний биатлон. Чемпионат мира. Минск. Женщины. Спринт. **18.30** WATTS. **19.50, 23.55** Велоспорт. «Вуэльта». 1-й этап. **21.30** Велоспорт. «Вуэльта»-экстра. **22.05** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **22.50** Теннис. US Open-2018. Обзор.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.50** Байки про байки. **6.35, 8.45, 11.40, 14.40, 17.50, 22.35, 0.20, 3.05** Итоговые новости. **9.00, 0.35** Тест на «Драйве». **9.30** Комплектация. **10.00, 1.15** Под микроскопом. **10.35** Это Родина твоя. **11.00** Все включено. **11.15** Испытание на прочность. **11.55, 14.55, 18.10** Мото. Вторые руки. **19.45, 22.50, 3.20** АВТОбиография. **20.35, 23.40, 4.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **21.05, 0.05, 4.35** Школа внедорожного вождения. **21.20, 4.50** В поисках мотоприключений. **21.50** Кузовной ремонт. **22.20, 5.45** Авто: вторые руки. **1.00** Тайный покупатель. **1.45** Сити тестер. **2.15** Вторичка. **2.25** Вечер с Пикуленко. **5.20** Теория полного привода.

### EXPLORE

**6.00, 6.45** Переделка старья. **7.35, 8.00, 8.25, 8.50, 0.50, 1.15, 1.40** Гараж: Последний приют. **9.15, 10.00, 10.50, 11.35, 12.20, 13.10** Австралийские золотоискатели. **13.55, 14.45** Австралийские охотники на лобстеров. **15.30, 16.15** Поисковая команда в Австралии. **17.00, 17.55** Адские грузовики. **18.45, 19.10** Грузовые войны: Великобритания. **19.35, 20.30, 4.35** Большое рыболовное состязание. **21.20, 22.10** Деревенский дом. **23.00, 23.50** Рэй Донован. **2.05** Танковый биатлон. **3.00, 3.45** Чудовищный карп. **5.25** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.30, 5.50** Невероятные изобретения. **7.05** Тайны британских замков. **8.10, 1.45, 2.35, 5.00** Запретная история. **8.55, 9.45, 3.30, 4.15** Музейные тайны. **10.35, 22.50** День, когда... **11.35, 12.30** Заговор. **13.25** Тридцатилетняя война – Железный век. **14.30** Шесть королев Генриха VIII. **15.20** Рим: первая сверхдержава. **16.10** Боевые корабли. **17.05** Николай и Александра: последние монархи России. **18.05, 19.00** Вулканическая одиссея. **20.00** Настоящая игра престолов. **20.50** Наполеон. **22.00** Лучшие убийцы древних времён. **23.50** История оружия. **0.50** Оружейники: искусство войны.

### NATURE

**6.05** Наши любимые собаки. **6.55, 7.20, 7.50, 8.15, 8.45, 9.10, 9.35, 5.35** Лучшие друзья собаки. **10.00** По следам вашей кошки. **10.55** Ветеринар на холме. **11.45, 12.15, 12.45, 13.15, 13.45, 14.15, 14.45, 15.10, 15.40, 16.10** Уличный ветеринар. **16.40, 17.30, 18.20** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **19.10** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **20.00, 20.55, 21.50** Экватор: линия жизни. **22.45, 23.10, 23.40, 0.05, 0.35, 1.00** Природа в кадре. **1.30, 2.15, 3.05** Суперветеринар. **3.55, 4.45** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.15, 11.20, 11.45, 5.10** Игры разума. **6.40** Чудеса инженерии. **7.30** Инстинкт выживания. **8.15, 12.10** Суперкар со свалки. **9.00, 9.45** Короли рыбалки. **10.35, 10.55, 5.35** Код опасности. **12.55, 13.40** Настоящий суперкар. **14.25, 15.10, 2.40, 3.30** Расследования авиакатастроф. **16.00** Враждебная планета. **16.45** Вдоль по каньону. **18.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **19.00, 22.00** Погребенные секреты Второй мировой войны. **19.45, 22.50** Откуда берутся диктаторы. **20.30** Осушить океан. **21.15** Осушить океан: «Титаник». **23.30, 0.20** Секретные материалы древности. **1.05, 1.50** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **4.20** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.45** Какая дичь! **6.15, 23.00** Охота в Новом Свете. **6.40, 0.05** Профессиональная рыболовная лига 2018. **6.55, 12.05, 0.20** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.50, 19.00, 1.05** Рецепты старого Тифлиса. **8.00** Пофестивалим! **8.30, 20.15** Поймать лосося. **9.00** На рыбалку с охотой. **9.35, 16.05, 21.15, 3.40** Оружие для охоты. **10.05** Стрелковый спорт. **10.15, 21.55** Охотничьи собаки. **10.45, 22.25** Кодекс охотника. **11.05, 17.35, 1.25, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.30, 19.15, 1.50, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.05** Фишермания. **13.35** Спиннинг сегодня. **14.05** Рыбалка в России. **14.35, 2.20** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **15.05, 2.50** Практическая школа нахлыста. **15.35, 20.45, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **16.35, 4.10** Карпфишинг. **17.05, 4.35** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **18.05** Рыболовные путешествия. **19.45** Я и моя собака. **21.40** Нож-помощник. **23.30** Секреты «трудных» водоемов.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.45, 22.25** Дома на деревьях. **6.45, 14.40, 19.05, 23.15, 3.05** Мультиварка. **7.00, 10.50, 14.55, 23.30, 3.20** Огород от-кутюр. **7.25, 11.20, 15.25, 19.50, 23.55, 3.45** Урожай на столе. **8.00, 15.55, 20.25, 0.30, 4.15** Преданья старины глубокой. **8.30, 12.35, 16.45, 21.10, 1.10, 4.50** Тихая моя родина. **9.00, 13.05, 17.15, 21.40, 1.40, 5.20** Полное лукошко. **9.15, 13.25, 17.30, 21.55, 1.55, 5.35** Фитоаптека. **10.30** Квас. **11.50** Хозяин. **12.20, 20.55, 1.00, 4.40** Садовый доктор. **13.50, 2.20** Деревянных дел мастер. **16.25** Про грибы. **18.00** Постное меню. **18.15** Легендарные братья-пекари. **19.25** 10 самых больших ошибок.

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«ОДНА ЛОЖЬ НА ДВОИХ».**

**8.20** «Клуб редакторов».

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СЛЕД».**

**10.40** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Наши».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«ЖЕНЩИНА В ЗЕРКАЛЕ».**

**14.20** «Твое место на кухне».

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20** «Код нации». Хронико-документальный телефильм.

**16.55** Х/ф **«ПОЛЕТ БАБОЧКИ».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«ВЫБИРАЯ СУДЬБУ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.30, 19.50** «Телебарометр».

**8.35** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.25** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**10.15** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.10** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**

**13.10** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ПРАЗДНИК».**

**15.00** «Когда мы дома». Скетчком.

**15.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** «Спортлото 5 из 36», КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ДЖЕК РАЙАН: ТЕОРИЯ ХАОСА».**

**23.50** «Рок за Бобров». «Ляпис-98».

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.10, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.30, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Гадкий утенок». Мультфільм.

**8.45** «Дачная паездка сяржанта Цыбулі». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Запечаны гарбуз.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Трое сутак пасля бяссмертнасці». Мастацкі фільм [СТ].

**13.15** «Майстры і куміры». Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карызна.

**14.35** «Саша-Сашачка». Мастацкі фільм [СТ].

**15.45** «Дзесяць фатаграфій». Алег Міцяеў.

**16.25** «Каманда 8». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Справа стракатых». Мастацкі фільм [СТ].

**22.40** Канцэрт навучэнцаў Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай гімназіі-каледжа. Балет «Шлях да мары».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Ералаш».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Здоровье».

**10.25** «Видели видео?».

**12.30** Х/ф **«КОРОЛЕВА БЕНЗОКОЛОНКИ».**

**14.00** «Надежда Румянцева. Одна из девчат».

**15.00** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.

**18.20** «Эксклюзив» с Дмитрием Борисовым.

**20.00** «Контуры».

**21.05** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

**23.00** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).

**23.20** «КВН». Премьер-лига.

## СТВ

**6.05** «Легенды СССР».

**7.45** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**12.05, 13.40, 16.40** Т/с **«ЧЕРТА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** «Засекреченные списки».

**23.55** Т/с **«БОЕЦ».**

**2.55** ПРЕМЬЕРА. «Анекдот-шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** Мультфильмы.

**6.40** «Беларусь сегодня».

**7.05** «Охота на работу».

**7.45** «Культ/туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.45** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф». Премьера!!!

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«СТРАСТИ ПО ЧАПАЮ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.55** Х/ф **«БЕЗЫМЯННАЯ ЗВЕЗДА».**

**4.20** Т/с **«ОРЛОВА И АЛЕКСАНДРОВ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55, 23.15** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.40** «Устами младенца».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.00** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.20** «Следствие вели...».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Т/с **«ШЕФ».**

**23.50** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СМЯГЧАЮЩИЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**16.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК- АМФИБИЯ».**

**18.30, 20.55** Х/ф **«РЫЖИК».**

**22.40** «Новая волна-2019». Юбилейный вечер Игоря Крутого.

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.30** Люди в чёрном 2. **7.50** Интуиция. **9.30** Эван Всемогущий. **11.15** Случайный муж. **12.55** Параллельные миры. **14.55** Семейка Крудс. **16.45** Белфегор – призрак Лувра. **20.10** Инопланетянин. **22.15** Призрачный патруль. **0.00** Праздничный переполох. **2.15** Бандиты. **4.20** Прости, хочу на тебе жениться.

### TV1000 ACTION

**7.35** Хеллбой: Герой из пекла. **10.10** Хеллбой II: Золотая армия. **12.45** Револьвер. **14.50** Мачете. **16.50, 5.10** Счастливое число Слевина. **18.55** Линкольн для адвоката. **21.10** Экспат. **23.05** Арсенал. **0.50** Горец. **2.55** Кикбоксёр возвращается.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.25** Анна Каренина. История Вронского. **10.10** Подземелье ведьм. **11.55** Проводник. **13.45** О чём говорят мужчины. **15.35** О чём ещё говорят мужчины. **17.25** О чём говорят мужчины. Продолжение. **19.15** Пятница. **20.55, 5.30** Обитаемый остров: Схватка. **23.00** Скиф. **0.55** Про жену, мечту и еще одну... **2.15** Невеста любой ценой. **3.50** Память осени.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.15** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА: АНАКОНДА». 15.00** Х/ф **«УЖАСТИКИ». 17.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 19.00** Х/ф **«ВУЛКАН». 21.00** Х/ф **«РАЗЛОМ». 23.15** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ». 1.00** Х/ф **«ВОЛНА». 3.00** Х/ф **«СИЯНИЕ». 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2». 12.00, 13.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«ПРИИСК 2». 20.00, 21.00** Т/с **«ЖУКОВ». 22.00, 23.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 6.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. 1 с. **7.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. 2 с.

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ВДРЕБЕЗГИ». 2.35** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 4.00** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ». 5.30** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ». 7.05** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 8.45** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 10.20** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 11.50** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 13.35** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ МУЖЕМ». 15.30** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 17.40** Х/ф **«КОРОЛЬ ВЕЧЕРИНОК». 19.30** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 21.15** Х/ф **«МАМЕНЬКИН СЫНОК». 23.10** Х/ф **«ВСЕ ПАРЫ ДЕЛАЮТ ЭТО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.15, 2.10, 3.00, 4.00, 5.10, 6.15, 7.20** Временно недоступен. **8.15, 9.15, 10.05, 11.00** Ложь во спасение. **12.00, 12.50, 13.45, 14.40, 15.35, 16.30, 17.20, 18.15, 19.10, 20.05, 21.00, 21.50, 22.45, 23.35** Ликвидация.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.15, 10.40, 11.20, 11.55, 13.55, 14.55, 16.45, 18.35, 20.15, 22.15, 0.00** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.25** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.00, 18.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **15.00** Х/ф **«ШОПО-КОП». 16.50** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ НОЧНЫХ СТРАЖЕЙ». 20.20** Х/ф **«СОЛТ». 22.20** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.20** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **0.05** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 1.55** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **4.05** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 20.25, 1.00** Спорт-микс. **7.10, 12.05, 14.05** Гребля на байдарках и каноэ. Чемпионат мира. **10.00** Тренировочный день. **10.35** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Превью. **11.05** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Юниоры. Гонка преследования. **13.05** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Юниорки. Гонка преследования. **15.35** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Мужчины. Гонка преследования. **16.35** Спорт-центр. **16.45** Питстоп. **17.20** Биатлон. Летний чемпионат мира. Раубичи. Женщины. Гонка преследования. **18.20** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. Испания – Беларусь. **20.35** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. В перерыве – Спорт-центр. **22.35** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.20** Дзюдо. Чемпионат мира. Полуфиналы и финалы.

### EUROSPORT

**1.20, 13.00** Велоспорт. «Тур де л'Авенир». 9-й этап. **2.30, 21.50** Теннис. US Open-2018. Мужчины. Финал. **4.00, 8.00, 11.30** Велоспорт. «Вуэльта». 1-й этап. **6.00, 9.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **7.00, 10.30** Теннис. US Open-2018. Обзор. **14.30** Велоспорт. «Тур де л'Авенир». 10-й этап. **16.00, 20.15, 23.55** Велоспорт. «Вуэльта». 2-й этап. **18.45** Велоспорт. «Вуэльта»-экстра. **19.15** Летний биатлон. Чемпионат мира. Минск. Мужчины. Гонка преследования. **19.45** Летний биатлон. Чемпионат мира. Минск. Женщины. Гонка преследования.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00** 112 Пожарные в действии. **6.45, 10.05, 13.45, 16.30, 19.20, 23.50, 1.55, 3.05** Итоговые новости. **7.50, 12.10, 13.55, 16.45** 9 злобных водителей. **8.20, 2.35** Народный тест драйв. **8.50, 10.20, 0.45, 2.10** Под микроскопом. **9.20** Сити тестер. **9.50** Вторичка. **10.50** Вечер с Пикуленко. **11.30** Советы юриста. **19.35** Гаражная команда. **20.30, 23.20, 4.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.55, 0.00, 4.30** Школа внедорожного вождения. **21.10, 4.45** В поисках мотоприключений. **21.45, 5.15** Кузовной ремонт. **22.15, 5.45** Авто: вторые руки. **22.30, 3.15** АВТОбиография. **0.15** Комплектация. **1.15** Это Родина твоя. **1.40** Все включено.

### EXPLORE

**6.15, 7.10, 8.05, 8.50** Чудовищный карп. **9.40, 10.40, 11.45, 12.45, 13.50, 14.50** Самые опасные дороги мира. **16.00, 16.45** Деревенский дом. **17.30, 17.55, 18.20** Гараж: Последний приют. **18.45, 19.35** Надсмотрщик. **20.25, 21.15** Переделка старья. **22.10, 23.00, 23.50, 0.40, 1.30** Австралийские золотоискатели. **2.20, 3.10** Поисковая команда в Австралии. **4.00, 4.45** Лесные люди. **5.30** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.20, 7.50** Невероятные изобретения. **7.00, 10.45** Тайны британских замков. **8.20, 1.55, 2.50, 5.10** Запретная история. **9.05, 9.55, 3.40, 4.25** Музейные тайны. **11.35, 12.35** Вулканическая одиссея. **13.30, 14.35** Вторая мировая в цвете. **15.35, 16.30, 17.20** Мир Гитлера: послевоенные планы. **18.15, 19.15** Вторая мировая война: чего стоит империя. **20.15** Смертоносный интеллект. **21.05** Шелковый путь между Востоком и Западом. **22.05** Рим: первая сверхдержава. **23.00** Тайная война. **0.00** Заговор. **0.55** Иудея и Рим: фатальный конфликт.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40** Секретная жизнь собак. **8.30, 9.25** Питомцы: дикие в душе. **10.25, 13.55, 20.00** Волшебная страна Оз. **11.25** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **12.15, 13.05** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **14.55** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. Съемки. **15.50, 16.45** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **17.40, 18.35** Галапагосы. **19.30** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **21.00, 21.55, 22.50, 23.45** Эпический Йеллоустоун. **0.40** Загадка полярного сияния. **2.30, 3.20** Суперветеринар. **4.10, 5.00** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.25** Чудеса инженерии. **7.15, 0.55, 1.40** Инстинкт выживания. **8.05, 12.05, 4.50** Суперкар со свалки. **8.50, 9.40** Короли рыбалки. **10.30, 10.55, 5.35** Код опасности. **11.20, 11.40** Игры разума. **12.50, 13.40** Авто-SOS. **14.25** Китай с высоты птичьего полета. **15.55** Внутри невероятной механики. **16.40** Убийство Линкольна. **17.25** Потерянная гробница Александра Великого. **18.15, 3.15** «Наркоман Гитлер». **19.00, 21.55, 2.25** Осушить океан. **19.45** Вдоль по каньону. **21.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **22.45** Служба безопасности аэропорта: Перу. **4.00** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.50** Фишермания. **6.25, 23.20** Спиннинг сегодня. **6.55, 0.35** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.55, 19.10, 1.20** Рецепты старого Тифлиса. **8.00** Камера, мотор... рыба! **8.30, 20.25** Практическая школа нахлыста. **9.00, 15.45, 20.55, 3.20** Рыбалка сегодня XL. **9.30, 16.15, 21.25, 3.45** Оружие для охоты. **10.00, 21.50** Карпфишинг. **10.30, 22.20** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **11.00, 17.45, 1.35, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.30, 19.25, 2.00, 5.35** Блондинка на охоте. **12.00, 18.15** Рыболовные путешествия. **13.10** Какая дичь! **13.25** Охота в Новом Свете. **13.55** Секреты «трудных» водоемов. **14.30** Профессиональная рыболовная лига 2018. **14.45, 19.55, 2.25** Я и моя собака. **15.15** На рыбалку с охотой. **16.45, 4.10** Нож-помощник. **17.00, 4.25** Охотничьи собаки. **17.25, 4.50** Кодекс охотника. **23.50** Рыбалка в России. **0.20** Дед Мазай и зайцы. **2.50** Поймать лосося.

### УСАДЬБА

**6.00, 22.25** Деревянных дел мастер. **6.45, 10.30, 14.40, 19.05, 23.15, 3.00** Мультиварка. **7.00, 10.50, 23.30** Огород от-кутюр. **7.25, 11.20, 15.25, 19.50, 0.00, 3.40** Урожай на столе. **8.00, 11.50, 16.00, 20.25, 0.30, 4.10** Преданья старины глубокой. **8.30, 12.35, 16.45, 21.10, 1.00, 4.50** Тихая моя родина. **9.00, 13.05, 17.15, 21.40, 1.30, 5.20** Полное лукошко. **9.15, 13.25, 17.30, 21.55, 1.45, 5.35** Фитоаптека. **9.45** Дома на деревьях. **12.20, 16.30, 20.55, 4.35** Садовый доктор. **13.50, 18.15, 2.10** Легендарные братья-пекари. **15.00, 19.25, 3.15** 10 самых больших ошибок. **18.00** Постное меню.

# Пра Гануту, Пахомава, Юнцавічы, Лукавец

## Выйшаў новы выпуск гісторыка-краязнаўчага гадавіка «Вілейскі павет»

ВІЛЕЙКА

**У новым нумары гадавіка традыцыйна звярнулі ўвагу не толькі на мінулае самой Вілейкі, але і на гісторыю іншых населеных пунктаў, на біяграфіі людзей, якія нарадзіліся на Вілейшчыне.**


Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Здымак з сямейнага архіва паноў Бароўскіх, пра якіх у гадавіку піша Віктар Тонкавіч. Злева Зоф'я з Лукавецкіх, невядомы, Казімір Бароўскі і Міхаіл (з шапкай), яго брат Аляксандр з Юнцавічаў, двое невядомыя.

### Як жылі ў Ганутце зямяне і баяры

Гісторык **Анатоль Сцебурака** на падставе архіўных дакументаў напісаў тэкст пра баяр і зямян (ваенна-служылае насельніцтва ВКЛ) у Ганутце – уладанні князёў **Агінскіх**. Адлік існавання Гануты пачаўся ў 1501 годзе як уладання князёў Гальшанскіх.

Затым гаспадары і арандатары шмат разоў мяняліся, пакуль у 1723 годзе ўладанне не перайшло да Агінскіх. З імі і звязаны росквіт Гануты.

У маёнтак уваходзіла некалькі фальваркаў (Груздзяніца, Забалацце, Рабінава) з тузінам вёсак і засценкаў.

Па гэтым тэксце сустракаецца шмат інфармацыі пра жыхароў з 17 стагоддзя. Можна пашукаць і сваіх продкаў.

Архівіст **Віктар Жыбуль** працягвае публікаваць спадчыну нашаніўца **Вульфа Сосенскага** з Даўгінава. На гэты раз ён знайшоў успаміны Сосенскага, якія ахопліваюць перыяд з 1892 да 1939-га. Гэта суб'ектыўная хроніка Даўгінава.

Сосенскі ў Другую сусветную вайну, страціўшы ўсю сям'ю, выехаў у Латвію, ажаніўся другі раз, перабраўся ў Ізраіль, дзе і памёр. Але ўвесь час жыў родным мястэчкам. У старасці шмат успамінаў і запісваў тыя ўспаміны.

### Загадкавая вёска Пахомава

**Ілля Бутаў** правёў гістарычнае расследаванне. Адшукаўшы згадкі пра цудатворны абраз з царквы ў вёсцы Пахомава, ён пачаў шукаць сам абраз.

Праблема ў тым, што гэта вёска знікла больш за сорак гадоў таму – яе затапілі падчас будаўніцтва Вілейскага вадасховішча. А жыхароў рассялілі.

Бутаў пачаў збіраць звесткі пра Пахомава ў дакументах, расшукваў колішніх жыхароў вёскі. Яму ўдалося правесці цэлае расследаванне. Знайшоў ён і фотаздымак царквы, які ўпершыню апублікаваны ў «Вілейскім павеце».

### Што звязвала з Вілейшчынай Максіма Танка

**Сяргей Макарэвіч** расказаў пра эпізоды з жыцця паэта **Максіма Танка**. Ён у 1939 годзе быў накіраваны ў Вілейку на працу ў абласной газеце. Сюды прыехаў з нявестай, з якой тут і ажаніўся. Але не толькі прыемнымі момантамі запомнілася Танку Вілейка: было шмат эпізодаў, пра якія пазней паэт амаль не ўспамінаў ні ў лістах, ні ў дзённіку, ні ў размовах з іншымі.

Максіму Танку і яго блізкім пагражалі рэпрэсіі. Макарэвіч апісаў гісторыю ўзаемадачыненняў паэта з яго начальнікамі па газеце, у абкаме партыі. Ад каго сыходзіла пагроза, а хто яго ўратаваў.

У гэтым нумары апублікаваныя і лісты пісьменніцы **Ганны Новік** да **Максіма Танка** 1950-1970-х гадоў. Па іх прасочваецца гісторыя Ганны Аляксееўны, пра якую не прынята пісаць у яе біяграфіі.

Сярод іншых аўтараў гадавіка – **Віктар Тонкавіч** (расказаў пра гісторыю вуліц Вілейкі, а ў асобным тэксце – пра **Бароўскіх**, гаспадароў вілейскіх маёнткаў Юнцавічы і Лукавец), **Анатоль Капцюг, Клаўдзія Дубовік, Сяргей Ганчар.**

Першы выпуск «Вілейскага павета» выйшаў у 2014 годзе. Укладальнікі гадавіка – Сяргей Макарэвіч і Дзяніс Канецкі. Выданне выходзіць пры падтрымцы дабрачыннага фонду «Вяртанне». «Вілейскі павет» (выдавец Андрэй Янушкевіч) – гэта зборнік публікацый, прысвечаных найперш канкрэтнаму рэгіёну: сучаснаму Вілейскаму раёну і тэрыторыям, якія ў розныя часы ўваходзілі ў межы Вілейскага староства, Вілейскага павета, Вілейскай вобласці.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

# Якія навіны з рэгіёна чыталі земляκі ў газеце «Наша думка» ў 1921 годзе

ВАЛОЖЫН
МАЛАДЗЕЧНА
АШМЯНЫ

**У нумары 27 рубрыка «Правінцыйны аддзел» цалкам прысвечаная навінам з нашага рэгіёна.**

Аўтар з Валожына пад псеўданімам **Дзед Валіла** піша: «Калі нядаўна я прачытаў у «Нашай думцы», што газета «Беларускі звон» закрылася, дык мяне раптам ахапіў вялікі сум. Па маёй думцы, кожная беларуская газета ёсць моцная перашкода таму, што нам варожа. Кожная беларуская газета пашырае нашу свядомасць, каб нават хто гэтай свядомасці і не хацеў. Да таго ж у «Беларускім звоне» друкаваліся сцэнічныя творы, якіх у нашым жыцці пакуль што не надта шмат. Мы павінны моцна шкадаваць, што нашых часопісаў паменшала.

Наступная навіна з Барунаў. У аўтара псеўданім – **Сякера**. «Фэст, які адбыўся 29 чэрвеня, прайшоў вельмі ўрачыста. Грамадзянства ўсіх навакольных вёсак сабралася на святкаванне. Праўда, гэтая ўрачыстасць была сапсаваная арыштам ксяндза **Пятроўскага**, якога тут вельмі шчыра шануюць усе парафіяне (...) А шостай гадзіне ў гмаху былой настаўніцкай семінарыі адбыўся спектакль, дзе вядомы артыст-драматург **Аляхновіч** паставіў сваю «Птушку шчасця», што зрабіла вельмі прыемнае ўражанне на грамадзян. Сумна, вельмі сумна было на душы ад таго, што не было самога пробашча, які сваёй прысутнасцю даў бы магчымасць лепей адчуваць свята».

Палачанец, аўтар з Палачанаў, піша, што ў канцы сакавіка 1921 года з'явілася ў іх паліцыя. «Відаць, без яе ў нас не было парадку. Ну і пайшлі ж парадкі! Прыехала іх нямнога, усяго шэсць, а ўсюды стала поўна: і па вёсках, і па дарогах. Праўда, крадзяжоў у гаспадароў не зменшылася. Затое арышты пайшлі. А на дарозе – што б ні нёс, ні вёз – усё перакратуць і агледзяць. Яны кватарантаў іншых прафесій – дактароў, настаўнікаў, шаўцоў – ганяюць з кватэр, бо ім трэба з жонкамі памяшкання. Адным словам, з-за малой нават рэчы, а становіцца цесна жыць на Беларусі».

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

● КАЛЯНДАР

**16 ЖНІЎНЯ**

**1874.** У Вілейцы нарадзіўся **Аляксандр Уласаў**, беларускі грамадскі дзеяч, рэдактар-выдавец газеты «Наша Ніва», сенатар у Другой Рэчы Паспалітай. Жыў ля Радашкавічаў. Рэпрэсіраваны ў 1939 годзе. Памер у 1941.

**1941.** У СССР апублікаваны загад, паводле якога чырвонаармейцы, што здаліся ў палон, абвяшчаліся здраднікамі.

**1945.** СССР падпісаў дагавор з Польшчай дагавор аб межах.

**17 ЖНІЎНЯ**

**1629.** Нарадзіўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі **Ян Сабескі**. Памёр у 1696.

**18 ЖНІЎНЯ**

**1991.** Дамашні арышт **Міхаіла Гарбачова** ў Крыме.

**19 ЖНІЎНЯ**

**1925.** У Вільні пачалося выданне газеты «Жыццё Беларуса». Закрыта з-за ціску польскіх уладаў.

**1991.** Спроба дзяржаўнага перавароту ў СССР. Змоўшчыкі адхілілі ад улады Міхаіла Гарбачова і заявілі аб увядзенні надзвычайнага становішча.

**20 ЖНІЎНЯ**

**1937.** Польскімі ўладамі забароненая дзейнасць Таварыства беларускай мовы.

**21 ЖНІЎНЯ**

**1841.** Англічанін **Джон Хэмптан** запатэнтаваў пад'ёмныя жалюзі.

**22 ЖНІЎНЯ**

**1861.** Нарадзіўся **Ігнат Буйніцкі**, беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра. Удзельнік літаратурнага жыцця. У 1917 годзе быў на Заходнім фронце на ваеннай службе ў Маладзечне. Памёр на сцэне ў час рэпетыцыі, займаючыся салдацкай мастацкай самадзейнасцю. У Маладзечне яго імя носіць вуліца.



**1989.** Літва абвясціла незаконнай анексію рэспублікі Савецкім Саюзам.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Чым жыве вёска Рымдзюны на беларуска-літоўскім памежжы



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Марыя Мажэйкене паказвае кнігу ўласных успамінаў, якую выдалі ў Літве.

**У мясцовай краме ў Рымдзюнах, што на Астравеччыне, вы не набудзеце традыцыйны літоўскі шакоціс. На вясковай вуліцы беларуская гаворка гучыць часцей, чым літоўская мова. А вось на мясцовых могілках прозвішча Петрык, напісанае кірыліцай, суседнічае з «Петрыкас» і «Петрыкене» на лацінцы.**

АСТРАВЕЦ

Калі вы хочаце дакрануцца да Літвы, не выязджаючы з Беларусі, то вам сюды – у гервяцкі край.

### З Астравеччыны – у Вільню і наадварот – кожныя выхадныя

Ці не ўсе насельнікі Рымдзюнаў і навакольных вёсак аднолькава добра размаўляюць па-руску і па-літоўску. Тут шмат сямей, дзе дзеці вучацца ў літоўскіх ВНУ, а на выхадныя едуць дамоў на Астравеччыну, да бацькоў. Да суседняй краіны адсюль – трохі больш за 30 кіламетраў.

Настаўнікі ж з Літвы прыязджаюць у Рымдзюны вучыць мясцовых дзяцей у літоўскамоўнай школе. Жывуць у прышкольным інтэрнаце, а на выхадныя з'язджаюць дамоў, да сямей. Большасць – на ўласных аўтамабілях.

Але ў пятніцу, суботу і нядзелю тут ходзіць аўтобус «Гіры-Вільня». Сеўшы ў маленькай беларускай вёсцы, праз дзве гадзіны выходзіш у сталіцы Літвы.

Многія сем'і ў Рымдзюнах беларуска-літоўскія. І на сталах побач з дранікамі з'яўляецца літоўскі халаднік на кефіры, бульбяныя піражкі з мясам – жэмайчу, запечаная кішка – відурэй.

Відаць, нездарма невялічкім Рымдзюнам, дзе няма трох соцень чалавек, Літва падарыла Цэнтр культуры, адукацыі і інфармацыі – сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства.

У яго ўваходзяць дзве школы: адна з беларускай мовай навучання, другая – з літоўскай, два такія ж дзіцячыя садкі, інтэрнат, сельская бібліятэка і аддзел культуры і вольнага часу Гервятаў. Пры аддзеле культуры працуе музейны пакой, гурткі, ладзяцца выставы.

– Нашаму краю вельмі пашанцавала, – лічыць **Наталля Бялячыц**, загадчыца аддзела культуры і вольнага часу Гервятаў і намеснік дырэктара Літоўскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі. – Тут і дзеці, і дарослыя могуць размаўляць паміж сабой на дзвюх мовах. Калі ж нехта па-літоўску размаўляць не можа, то дакладна зразумее суразмоўцу. А гучныя літоўскія песні любяць усе. Ёсць сем'і, дзе адно дзіця наведвае беларускую школу, другое – літоўскую.

Не выключэнне і сям'я Наталлі. Яна – грамадзянка Літвы з пасведчаннем на правы жыхарства ў Беларусі. Мама Наталлі з Астравеччыны, з вёскі Тракенікі. Тут нарадзілася і Наталля, калі бацькі, што ўжо жылі ў Вільні, прыехалі ў госці на Астравеччыну.

Муж суразмоўцы таксама грамадзянін Літвы. У Рымдзюны яго накіравалі працаваць у літоўскамоўную школу. Калі прыйшоў час, у літоўскамоўны дзіцячы садок, а потым у школу Наталля аддала свайго сына, бо ўжо тады бачыла яго студэнтам адной з віленскіх ВНУ. Так урэшце і сталася: сёння хлопец вучыцца і працуе ў Вільні, свабодна размаўляе па-беларуску, па-руску і па-літоўску.

### Калектыў з 60-гадовай гісторыяй і гарбата-брэнд

Ад 1956 года ў Рымдзюнах дзейнічае аматарскае аб'яднанне традыцыйнай народнай культуры «Жыльвіціс» («Вярба»). Сёння ўзрост яго ўдзельнікаў – ад 14 да 96. Сталыя жанчыны гервяцкага краю вучаць школьнікаў беларускім і літоўскім песням, знаёмяць з мясцовымі абрадамі.

Разам яны выступаюць на фестывалях і конкурсах розных узроўняў: прадстаўляюць песні на рускай, беларускай, літоўскай, польскай мовах, танцы, кухню, вырабы з лёну. І заўсёды маюць высокую адзнаку журы.

Восенню ў «Жыльвіціса» з'явіцца брэнд – адмысловая гарбата.

Калі дакладней, гарбаты будзе некалькі гатункаў – для даўгалецця, імунітэту, ад прастуды, ад бранхіту.

Удзельнікі калектыву разам з **Наталляй Бялячыц** і народным майстрам і траўніцай **Марыяй Мажэйкене** ўжоназбіралі траў на рымдзюнскіх лугах, у лесе і на мясцовых падворках. Ёсць кветкі чабору, ліпы, календулы, а таксама ісоп, душыца, меліса, мята і іншыя зёлкі.

Эмблему гарбаты ўжо замовілі ў Астраўцы. Ільняныя мяшэчкі для траў пашыюць самі.

– Гарбатай будзем частаваць шматлікіх гасцей, што наведваюць нашы ўнікальныя мясціны, – кажа Наталля Бялячыц.

А падаваць гарбату будуць з фірменнымі літоўскімі пончыкамі ад мясцовых гаспадынь і духмяным мёдам.

### Ёсць карункі пачатку мінулага стагоддзя і старыя літоўскія падручнікі

Наталля вядзе нас да музейнага пакоя. Надпісы на дзвярах, як і паўсюдна ў цэнтры, па-беларуску, літоўску і рускую. У пакоі – каля трохсот экспанатаў.

З найбольш каштоўных – лён 1929 года, карункі самага пачатку 20 стагоддзя – падарункі найстарэйшай удзельніцы «Жыльвіціса» Марыі Мажэйкене. Старыя кнігі на польскай і літоўскай мовах, пашпарт мясцовага жыхара часоў Першай сусветнай, сумка-кошык, з якой жанчыны хадзілі ў гервяцкі касцёл і клалі туды малітоўнікі.

Падчас Другой сусветнай пры гервяцкім касцёле дзейнічала школа, дзе вывучалі літоўскую мову. У пакоі захоўваюць падручнік адтуль, датаваны 1943 годам.

Частыя наведнікі музейнага пакоя – дзеці. Яны любяць, што экспанаты тут дазваляюць мацаць рукамі.

### Марыя Мажэйкене: пад Польшчай мы былі «ніякія»

Пра жыхарку суседняй вёскі Петрыкі, амаль 96-гадовую Марыю Мажэйкене, Наталля нам расказала столькі, што не з'ездзіць да жанчыны мы проста не змаглі.

У доме на стале Марыі Юльянаўны – судоку. Разгадвае, каб трэніраваць памяць. Тут



Марыя Мухніцкая гатуе жэмайчу – традыцыйную літоўскую страву.




Шыльда на адным з уездаў у Рымдзюны…




Фота Івана ПАЛЬЧЫНСКАГА.

…і на іншым. Памылка ці перадача асаблівасцяў мясцовай фанетыкі?




На стале ў 96-гадовай Марыі Мажэйкене – судоку.



Наталля Бялячыц паказвае журналістам музейны пакой у Літоўскім цэнтры культуры, адукацыі і інфармацыі.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Шыльда ля ўвахода ў адзіную ў Беларусі школу з літоўскай мовай навучання.

жа газеты і літоўская карта свету на сцяне.

Пасля кароткіх слоў супрацоўлення: «Я ўжо старая, што я вам раскажу?» спадарыня Марыя пачынае свой расповед на адметнай мясцовай гаворцы, дзе беларуская мова арганічна змешваецца з літоўскай і польскай.

Але ж спачатку маё пытанне:

**– Як ваша прозвішча: Мажэйкене ці Мажэйка?**

– Як былі мы пад польскай акупацыяй, усе прозвішчы на польскую мову перакладалі і сказалі, што трэба Можэйко. А па-літоўску я Мажэйкене. А па-беларуску Мажэйка.

Нарадзілася мая суразмоўца ў вёсцы Гіры. Была старэйшая з васьмі дзяцей. Сёння братоў і сясцёр Марыі на гэтым свеце ўжо няма.

У 1931 годзе ў Гірах Марыя пачала хадзіць у літоўскую школу. Скончыла адзін клас. Пасля было чатыры класы польскай школы. І ўсё.

– Размаўлялі мы тут заўсёды па-літоўску і пад палякамі таксама. Але былі і тыя, хто гаварыў па-беларуску. Тут людзі мяшаныя. І сямей шмат – калі беларусы з літоўцамі.

Марыя Юльянаўна прыгадала, што пад Польшчай улады не пісалі мясцовым у метрыках ніякай нацыянальнасці. Казалі, калі не запісваешся палякам, значыць, ты ніякі. І ў метрыках ставілі прочырк, кажа суразмоўца і паказвае той самы прочырк ва ўласным пасведчанні аб нараджэнні.

– Паны былі тут і літоўскія, і беларускія, – працягвае спадарыня Марыя. – У нас быў маёнтак Рымдзюны, паміж Гірамі і сённяшняй вёскай Рымдзюны. Там быў пан **Крукоўскі**. Але ён выехаў, а землі здавалі ў арэнду. Мы хадзілі рабіць да арандатара ў 1939 годзе, як мне было 18. А ў 1940 прыйшла ўжо іншая ўлада.

Бацькі Марыі жылі небагата. Мелі два гектары зямлі і адну карову і каня.

– Я часта цяпер думаю, як матуля кожны дзень магла накарміць дзесяць чалавек. І не раз на дзень, а тры, нагатаваць усім, – дзеліцца суразмоўца. – Бывала, што карова і малака не дае. Тады на стале толькі мак і каноплі. Цяпер, кажуць, наркотыкі. А мы на гэтых наркотыках выраслі. Малако макавае елі. Канопляў сеялі шмат. Малацілі па 10-20 кілаграмаў. А зярняты канопляў падсмажвалі, рабілі алей. З цеста, што ставілі на хлеб, рабілі маленькія блінкі, кідалі іх у кіпень. А пасля елі з канапляным алеем і падсмажанай цыбуляй.

12-13-гадовай дзяўчынкай, як скончыла польскую школу, Марыя пачала прасці і ткаць. Навучыла матуля, бо ёй самой не было асабліва часу гэтым займацца, маючы восем дзяцей. Ткалі абрусы, пасцельную бялізну, тканіну сабе на адзенне.

## Паваражыла на будучага мужа і сасніла яго

Замуж, на яе думку, Марыя выйшла старой дзевай. Ужо было 24 гады. Усе аднагодкі пажаніліся і замуж павыходзілі.

– А я ж бацькам дапамагала. Усё была і была ў дзеўках. Тады ж была мода – пасаг. А я бедная. Пасагу не мела, таму і не бралі. Але знайшоўся чалавек, які сказаў, мне пасагу не трэба, я ўсё сваё маю. Трэба памочніца ў жыцці, – прыгадвае жанчына.

– Даўней жа было мода варажыць на свята Андрэя. Сеялі каноплі каля студні і казалі: «Дай, божа, сніць, з кім буду жыць». Пасеяла каноплі і сасніла будучага мужа. Я яго ведала. Хлопец быў мясцовы, гірскі. Але думаю: ён мяне не возьме, бо нябедны, адзін з маці жыве. Мог бы ўзяць і лепшую.

У хуткім часе на танцах той хлопец глянуў на яе. І яна на яго. Так і пераглядаліся цэлы год. Але ён нічога не казаў. Дзяўчына замаркоцілася:

– Пачала думаць, дарма мая тая варажба. Але якраз перад святам Андрэя былі танцы. Тады ён ужо спытаў, ці пойдзеш за мяне замуж.

20 лютага 1947 года ў Мажэйкаў было вяселле. У той дзень у гервяцкім касцёле вянчаліся 12 пар.

Спачатку маладая сям'я жыла побач з Гірамі на хутары з літоўскай назвай Сяўросіяс, недалёка ад вёскі Пелегрында. Сяўросіяс – па-літоўску «вузкія». Мяліся на ўвазе вузкія шнуры зямлі.

Калі ж саветы хутары запатрабавалі зносіць у вёскі, Марыя з мужам не зносілі свой, а набылі хату ў Петрыках. Трэба ж хадзіць у калгас працаваць. Не было часу сваё рабіць, пераносам хутара займацца, тлумачыць жанчына.

Калгаса ў гэтай мясцовасці, дарэчы, не было да 1951 года. Да гэтага часу мясцовыя спакойна трымалі сваю гаспадарку. У Мажэйкаў была карова, конь і свінні. Як утварылі калгас, каня забралі. Карову пакінулі, але трэба было плаціць падатак дзяржаве – дзесяць кілаграмаў масла на год.

Муж працаваў у калгасе на будаўніцтве. Жонка – спачатку ў брыгадзе, потым – звенявой па льну:

– Пасля вайны грошы не плацілі. Давалі збожжа – па 200-300 грамаў на дзень. На астатак ужо было і нядрэнна.

Пад кіраўніцтвам звенявой было 12 дзяўчат. Неяк маладую звенявую звазілі ў Карэлічы. Там вучыліся апрацоўваць лён:

– Паглядзела, як яны робяць, і стала так рабіць. Пайшлі ў нас высокія паказчыкі.

Сёння Марыя Мажэйкене размаўляе па-беларуску, літоўску, руску і польску. Беларускую мову вельмі любіць, але па літоўску зручней. На гэтай мове размаўляе ўсё жыццё. Па-руску навучылася, калі дзеці хадзілі ў школу. Сёння дзве яе дачкі і ўнукі жывуць у Вільні.

– Калі дзеці пайшлі ў школу, па-літоўску ўжо не вучылі. А мы хацелі, каб яны ведалі літоўскую мову. Таму шмат дзяцей з вёскі, і нашы таксама, яшчэ невялікімі паехалі ў Літву. Там павывучваліся і засталіся, – кажа спадарыня Марыя.

У Вільню з Петрыкаў Марыя Мажэйкене ездзіць даволі часта: і да дзяцей, і па справах. Летась была ў літоўскай сталіцы на Сусветным з'ездзе пісьменнікаў. Прадстаўляла там уласную літоўскамоўную кнігу ўспамінаў, што выйшла ў Літве. Кніга пісьменніцы з Петрыкаў разышлася па ўсім свеце.

У канцы размовы гаспадыня прачытала нам уласныя вершы і праспявала песні па-літоўску і па-беларуску. А калі ўжо збіраліся сыходзіць, спыніла словамі «Можа, вам, што я наткала, паказаць?».

І разгарнула перад намі неверагодныя льняныя пакрывалы і абрусы…

…З Рымдзюнаў мы з'язджалі смачна накормленыя літоўскімі піражкамі жэмайчу ад гаспадыні **Марыі Мухніцкай**, натхнёныя краявідамі і мясцовай гаворкай і ўражаныя тым, што ў нашым рэгіёне ёсць такая мясціна – проста іншы свет.

Восенню збіраемся вярнуцца, каб пакаштаваць гарбату ад «Жыльвіціса».

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Саша па мянушцы Злая гутарыць з валанцёрамі.

# Дом ля возера: як сёлета прайшоў экафэст у Навасадах

**У гэтыя выхадныя прайшоў фэст «Дом ля возера». Другі год запар вёска Навасады ў Вілейскім раёне прыняла гасцей. У гэты раз гаспадар Алег Куралесаў прапанаваў гасцям застацца на тры дні. У праграме фестывалю былі аўтарская музыка, прагляды фільмаў і чытанне вершаў, рыбалка і эксклюзіўная кухня, а таксама выставы і майстар-класы.**

### Глядзелі фільмы і спявалі песні

Людзей, якія прыязджалі і прыходзілі на фестываль, было шмат. Валанцёры ўладкоўвалі прылеглую тэрыторыю з панядзелка. Яны рабілі сцэны, упрыгожванні, фарбавалі дом. Для людзей, якія заставаліся начаваць, на тэрыторыі свята зрабілі кемпінг.

Па словах валанцёраў, у пятніцу на фэст прыехалі ўжо за сорак чалавек. Для іх гадзіну ўвечары выступаў **Андрусь Такінданг**. Пасля імпрэзы музыкі ўсе, хто жадаў, прынялі ўдзел у спеўным сходзе. Спявалі зусім розныя кампазіцыі – атрымаўся мікс: Манюшка, купальскія песні, Сокалаў-Воюш.

Таксама ўвечары зладзілі прагляд італьянскага фільма «Цудоўнае жыццё», а потым абмяркоўвалі яго.

### Рыбалка, выставы і майстар-класы

У суботу з кожнай гадзінай пляцоўка дома ля возера напаўнялася новымі асобамі: ад зусім маленькіх дзяцей да дарослых. Гэты дзень пачаўся са спаборніцтваў рыбаловаў. Улоў атрымаўся невялікі, а пераможцаў узнагародзілі каробкай печыва і падстаўкай для вуды.

З абеду пачаліся лекцыі на адкрытым паветры. Спачатку выступіла **Алёна Міхаленка**, якая распавядала пра бацькоў супраць настаўнікаў і іншыя парадоксы сучаснай школы. Увечары Міхаленка чытала для дзяцей сучасныя казкі.

Тамара Міцкевіч распавядала пра тое, дапамагаюць ці шкодзяць адукацыі гаджэты і інтэрнэт.

У галоўны дзень фестывалю прайшлі два майстар-класы: ад **Юліі Краўцовай** па сухім і мокрым валенні і **Аляксандры Парахні** па пляценні саломкі. Культурная праграма на гэтым не заканчвалася. Наведнікі фестывалю глядзелі выставу **Віталя Назарэвіча** і Аляксандры Парахні. Творы віселі на сцяне дома, таму іх мог убачыць любы чалавек. На сцэне Навасадаў выступілі паэтэсы, якія падзяліліся са слухачамі сваімі ўлюбёнымі вершамі.

### Жывая бібліятэка: кнігі – гэта людзі

На фэсце зладзілі жывую бібліятэку. Гэта не звыклая бібліятэка для аматараў папяровых старонак. Тут замест «кніг» выступілі жывыя людзі са сваімі гісторыямі і адказвалі на любыя пытанні. У Навасадах былі пяць жывых кніг.

Аляксандра Парахня распавядала пра навучанне за мяжой, **Саша** з мянушкай Злая дзялілася сваёй гісторыяй пра інваліднасць.

Больш людзей сабрала вакол сябе дзяўчына, якая была не супраць, калі яе называлі вядзьмаркай.

Акцёр Мінскага абласнога тэатра ў Маладзечне **Алег Чэчанеў** распавядаў пра тэатральную справу, а валанцёр атрада «Анёл» **Максім Федаровіч** тлумачыў пра работу пошукавых атрадаў.

Для дзяцей былі прадугледжаны разнастайныя актыўнасці. Увесь дзень працавалі дзіцячыя горкі і батуты, хлопцы і дзяўчаткі разам з бацькамі гулялі ў футбол.

Апоўдні вучылі гатаваць юшку і калоць дровы.

З сямі вечара ўсіх удзельнікаў фестывалю парадавалі выступленні музычных гуртоў. У Навасадах спявалі «Планета Усіх», «Станцыя», «Дублекат». Музычны вечар закрываў гурт «Гуда». Субота завяршылася фаер-шоу.

У нядзелю з раніцы перад ад'ездам наведнікам фестывалю прапанавалі смачны сняданак, пазаймацца ёгай і пакупацца ў возеры. Незадаволеных удзельнікаў свята дакладна не засталося.

**Настасся УТКІНА.**



Саўндчэк гурта «Планета ўсіх».



Гледачы канцэрта.



На беразе возера.



Гаспадар «Дома ля возера» Алег Куралесаў і валанцёр Павел Хаванскі.



Дзяўчаты гатуюць юшку.



На фэсце было шмат жывой музыкі.



Майстар-клас па вырабе з саломы.



На свяце можна было адпачыць.



Аляксандра Парахня.

# «За чатыры гады дарос да сусветнага ўзроўню». Малады баец з Насілава стаў чэмпіёнам свету

**Глебу Карыцьку ўсяго 15 гадоў. На пачатку жніўня ён паехаў на чэмпіянат свету па змешаных адзінаборствах у Італію і ўзяў залаты медаль.**

Глеб паехаў на чэмпіянат свету пасля адбору на рэспубліканскіх спаборніцтвах. Баец заняў першае месца ў трох дысцыплінах: змешаных адзінаборствах, панкратыёне і грэплінгу.

**Панкратыён** – від спорту, у якім дазваляецца ўжываць практычна ўвесь арсенал тэхнічных дзеянняў барацьбы вольнай, грэка-рымскай, самба, дзюдо, бокса, тайскага бокса і іншых відаў адзінаборстваў.
**Грэплінг** – від спартыўнага адзінаборства, які сумяшчае ў сабе тэхніку ўсіх байцоўскіх дысцыплін, з мінімальнымі абмежаваннямі па выкарыстанні болевых і ўдушлівых прыёмаў.

### Падрыхтоўка ў ЗША і ранні пад'ём

Да чэмпіянату свету Глеб разам з бацькам адправіліся ў Сан-Францыска. Там малады баец правёў тры тыдні. Бацька распавядае, што акрамя адпачынку яны разам з сынам паспелі наведаць байцоўскія клубы. Паспелі пазаймацца ў вядомых залах, дзе трэніруюцца Гілберг і Хаўер.

– Заахвочваем сына разам з маці, хай займаецца. Ён зможа пастаяць за сваю дзяўчыну і сям'ю, – дзеліцца бацька Глеба **Вадзім**.

Пасля вяртання ў Беларусь у хлопца пачалася сур'ёзная падрыхтоўка. А сёмай раніцы ў яго была першая трэніроўка. Глеб кожную раніцу ездзіў з Насілава ў Маладзечна на ровары, каб патрапіць на яе. Потым прыязджаў дадому і працаваў.

– Мы жывём у вёсцы, а тут хапае, чым заняцца. Але моцна яго не напружвалі, – прызнаецца мама, **Алеся**.

Пасля трэніроўкі Глеб прыязджаў дадому, і ў абед у яго была гадзіна сну, а ўвечары зноў трэніроўка.

### Карыцька быў адзіным беларусам на чэмпіянаце свету

Моладзевы чэмпіянат свету па змешаных адзінаборствах прайшоў 3-4 жніўня ў Італіі. Глеб стаў адзіным байцом з Беларусі, які прыняў удзел у турніры. Ён выступіў у катэгорыі паўцяжкай вагі да 93 кг.

У катэгорыі заявілася ўсяго сем чалавек. Аднак пасля медыцынскай камісіі засталіся чатыры байцы. Баі прайшлі па кругавой сістэме. Глеб правёў тры баі. У першым ён змагаўся з расіянінам, у другім выступіў супраць казаха, а ў трэцім датэрмінова перамог румына. На погляд трэнера **Алега Пятровіча**, Глеб мог заняць прызавое месца і ў суперцяжкай катэгорыі.

– Мы маглі б заваяваць медаль у суперцяжкай вазе, але я не стаў заяўляць Глеба. Ён яшчэ маленькі, яму пакуль што не трэба лішняя псіхалагічная нагрузка. У гэты раз вырашылі адбіцца ў сваёй вазе, – успамінае трэнер.

На чэмпіянаце для Пятровіча і Карыцькі не абышлося без форс-мажору. Беларусь павінны былі прадстаўляць не толькі хлопец з Насілава, але і баец з Мінска. Але мінчанін атрымаў траўму перад турнірам, таму прапусціў яго. Разам з мінскім байцом паехаў бы і перакладчык. Ужо ў Італіі Пятровіч і Карыцька зразумелі, што засталіся без чалавека, які змог бы перакласці іх гаворку на англійскую мову. Трэнер распавядае, што Глеб добра валодае англійскай, таму ў той сітуацыі ўдалося справіцца і з такім невялікім форс-мажорам.

### «Не хацеў яго браць, але бацька ўгаварыў»

У спорт Глеба прывёў яго бацька Вадзім Карыцька. У 12 гадоў хлапчука аддалі трэнеру Алегу Пятровічу, які тады займаўся толькі з дарослымі байцамі. Як успамінае трэнер, браць Глеба ён тады не хацеў, таму што той быў занадта малы, але настаўніка ўгаварыў бацька.

> – Усё з нуля. Глеб прыйшоў у 12 гадоў і раней спортам не займаўся. За чатыры гады ён дарос да сусветнага ўзроўню. А цяпер Глеб адзіны чэмпіён свету па гэтай версіі ў Беларусі, – кажа трэнер.



Фота facebook.com/IMMAFed.

Мама чэмпіёна ўспамінае, што сын сам хацеў займацца спортам, таму бацькі падтрымалі Глеба ў гэтым жаданні.

Бацькі распавядаюць, што дзяржава не дапамагала ў падрыхтоўцы сына, таму што ён не займаецца алімпійскім відам спорту. Бацькі і трэнер самі плацілі ўзносы за ўдзел на спаборніцтвах, у тым ліку і на чэмпіянаце свету.

Пятровіч кажа, што федэрацыя рукапашнага бою і змешаных адзінаборстваў аплаціла ўнёсак у 200 еўра за Глеба на гэтым сусветным першынстве. А вось сэкундаванне байца, якое павінны ажыццяўляць трэнер, аплаціў Пятровіч. Паводле слоў трэнера, усё апраўдалася.

### Па фізкультуры цвёрдая дзясятка

Вадзім Карыцька распавядае, што яго сын стрыманы, любіў пасядзець у камп'ютары, таму аддаць Глеба ў спорт было правільным рашэннем. Пункт гледжання бацькі падтрымлівае і мама хлопца. Яна дзеліцца, што цяпер для Глеба трэніроўкі і камп'ютар – гэта ўсё яго жыццё.

Пра будучыню сына бацькі ўжо задумваюцца.

> **Пасля візіту ў ЗША Глебу прапаноўвалі заключыць кантракт з амерыканскімі байцоўскімі клубамі. Аднак бацька быў супраць.**

Ён лічыць, што сыну трэба яшчэ адвучыцца ў школе, а ўжо потым яны будуць думаць усёй сям'ёй, што рабіць далей. Спартсмен пераходзіць у дзясяты клас.

Алеся Карыцька распавядае, што плануе, каб Глеб звязаў сваё жыццё са спортам.

– Яму не вельмі хочацца вучыцца, затое па фізкультуры ў яго цвёрдая дзясятка.

Менш чым праз месяц Глебу споўніцца 16 гадоў. У лістападзе хлопец паедзе на чэмпіянат свету па панкратыёне, які пройдзе ў Італіі.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● ФУТБОЛ

### У ФК «Маладзечна» буйная перамога

Маладзечанскія футбалісты дабылі перамогу ў гульні са «СМІаўтатрансам». Чатыры галы ўляцелі ў вароты смалявіцкай каманды ўжо ў першым тайме. Толькі **Яўген Комлік** змог забіць маладзечанцам адзін гол у першыя 45 хвілін матча. За ФК «Маладзечна» адзначыліся **Павел Лаўгач**, **Мікіта Дудо**, **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк**, **Аляксандр Мяць**. У апошнія дзесяць хвілін гульні за бела-зялёных другі гол за матч забіў Мікіта Дудо.

### «Ашмяны-БДУФК» бяруць тры ачкі

**Дзмітры Купнеўскі** двойчы адзначыўся ў матчы з пінскай камандай. **Віталь Рушніцкі** намагаўся дапамагчы Пінску голам. Але дубль Купнеўскага вывеў ашмянскі калектыў пераможцам у гэтай сустрэчы. Такім чынам, «Ашмяны» пачалі другі круг з перамогі, зноў наблізіўшыся да лідара дзяржынскага «Арсенала».

Чысцінскі «Андэрдог» прапусціў дадзены тур у другой лізе. Чысцінцы павінны былі гуляць з ЮАС «Жыткавічы», але каманда знялася з чэмпіянату.

● ХАКЕЙ

### «Дынама-Маладзечна» – «Віцебск» – 11:0

Маладзечанскія хакеісты перамагаюць у Кубку Салея. У суботу, 10 жніўня, каманда перамагла «Віцебск» з лікам 11:0. Дынамаўцы захапілі перавагу на першых хвілінах гульні. А ўжо на другой хвіліне адзначыўся **Баярчук** з перадач **Зубрыцкага** і **Шэлега**. У першым перыядзе маладзечанцы забілі пяць шайбаў, тым самым яны даказалі, што з'яўляюцца фаварытамі ў гэтай гульні. У двух астатніх перыядах «Дынама» забіла яшчэ шэсць шайбаў. **Кучкін** аформіў хет-трык, **Баярчук** і **Несцераў** адзначыліся дзвюма шайбамі. **Дрындрожык**, **Зямлянкін**, **Сырэй** і **Бабко** запісалі на свой рахунак па шайбе.

### Салігорскія хакеісты саступілі маладзечанскім па булітах

«Дынама» і салігорскі «Шахцёр» правялі ключавы матч у сваёй групе. Нягледзячы на тое, што каманды былі рэзультатыўнымі ў мінулых матчах, гэта гульня аказалася самай безгалявой для абодвух калектываў.

«Шахцёр» і «Дынама» вырашылі зыход сустрэчы ў серыі булітаў. **Малюцін**, які ратаваў вароты гарнякоў, не змог узяць удар Артура Дрындрожыка. А Іваноў, які абараняў вароты маладзечанцаў, адбіў усе тры кідкі хакеістаў «Шахцёра». Такім чынам, Аляксей стаў лепшым гульцом матча і прынёс сваёй камандзе перамогу ў гэтым паядынку.

У апошнім туры «Дынама» згуляе дома з «Брэстам». Падапечным **Дзмітрыя Краўчанкі** трэба абыграць брэсцкіх хакеістаў у асноўны час, каб аформіць першае месца ў групе незалежна ад гульні ў Салігорску.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Галіна філалогіі, якая вывучае гісторыю тэкстаў твораў пісьменства, літаратуры і фальклору.
5. Населены пункт у рэгіёне, які стаў горадам у 2012 годзе.
7. На карціне мастака Іллі Рэпіна яны пішуць пісьмо турэцкаму султану.
8. Прозвішча беларускага палітыка, дыпламата і гісторыка, што жыў у Маладзечне, а дзяцінства правадзіў у бабулі ля Куранца.
9. Першы князь Вялікага Княства Літоўскага.
12. Раздзел батанікі, які вывучае флору.
13. Духавы музычны інструмент самага нізкага рэгістру.
16. Фінскія гарадкі.
17. Планета сонечнай сістэмы.
19. Падвід рэпы.
20. Вырабы з гэтага матэрыялу традыцыйна прадстаўляюць на фестывалі, што ладзяць у жніўні ў Крэве.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. «Пан ... ». Вядомая паэма Адама Міцкевіча.
3. Імя Бадуновай – жанчыны-палітыка, дзяячкі БНР.
4. Гэты матэрыял выраблялі на старажытных прадпрыемствах – гутах.
6. Прылада для здзірання кары з бярвення і грубага стругання.
8. Беларускі паэт, што гасцяваў у Лебедзеве ў сям'і Посахаў.
10. Вёска на Астравеччыне, дзе ёсць дзве школы: з літоўскай і беларускай мовамі навучання.
11. Старадаўняя назва баявога вайсковага сцяга.
13. Расліна, пашыраная ў Беларусі. У дзяцінстве вы, хутчэй за ўсё, прыкладалі яе да пабітых каленяў.
14. Прыватнае сельгаспрадпрыемства.
15. Літоўская нацыянальная страва – бульбяныя піражкі з мясам.
18. Вёска на Вілейшчыне, назва якой, паводле легенды, паходзіць ад спалучэння слоў «латы» і «голь».
21. Імя ўкраінскага пісьменніка Франко.

## Адказы на крыжаванку з №32

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Грацыя. 4. Грыва. 5. Вішня. 8. Матч. 9. Шарж. 10. Танкер. 11. Расток. 12. Турыст. 13. Хімія. 14. Шулер. 16. Лесвіца. 18. Лялька. 23. Льгота. 25. Канада. 26. Тропік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Гутарка. 3. Хваля. 4. Гуслі. 6. Шынок. 7. Шампур. 9 Шэпт. 15. Тыяра. 17. Люлька. 19. Тэрмін. 20. Бяроза. 21. Лес. 22. Какос. 23. Лётчык. 24. Ігнат.

## ● ГАРАСКОП НА 16-22 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Жыццё мяняецца, нават калі вам гэтага не хочацца. Падумайце, што можна зрабіць, каб атрымаць карысць з таго, што адбываецца. У вас дастаткова досведу, каб знайсці выхад з многіх складаных сітуацый.



**ЦЯЛЕЦ.** У пачатку тыдня будзе шмат напружаных момантаў. Вы бачыце, што часта абставіны складваюцца цалкам удала, але не злуйцеся на сябе, што не ўсе прадугледзелі. Паступова з'явіцца ўпэўненасць, якой так не хапала.



**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень пачынаецца выдатна. Дзейнічайце хутка – у вас ёсць некалькі дзён для таго, каб справіцца з самымі складанымі задачамі. Могуць удала вырашыцца пытанні, якія доўга не давалі вам спакою.



**РАК.** Усё складваецца ўдала. Ад вас патрабуецца не так ужо шмат: не баяцца прымаць рашэнні. Будзе магчымасць нешта кардынальна змяніць да лепшага ў прафесійнай сферы. Старайцеся вучыцца новаму.



**ЛЕЎ.** Тыдзень будзе нядрэнны. Але па-сапраўднаму ўдала ён складзецца для тых, хто не будзе выдаваць жаданае за сапраўднае. Будзьце гатовыя да таго, што вам нагадаюць аб нейкіх старых памылках, і вы не прапусціце шанец іх выправіць.



**ДЗЕВА.** Увесь тыдзень няпросты, але ў вашых сілах паўплываць на развіццё падзей. Многае будзе залежаць ад таго, як вы правядзеце першыя яго дні. Не губляйце час дарэмна, калі можна засяродзіцца на важным.



**ШАЛІ.** У пачатку тыдня наўрад ці ўдасца пазбегнуць напружаных момантаў. Могуць узнікаць праблемы ў адносінах тады, калі вам спатрэбіцца падтрымка. Старайцеся не крыўдзіцца – чым спакайней вы рэагуеце, тым хутчэй атрымаецца аднавіць паразуменне.



**СКАРПІЁН.** Не ўсё даецца проста, але ў цэлым тыдзень складаецца досыць удала. Не выключана, што ў вас з'явіцца моцныя саюзнікі, на якіх можна спадзявацца ва ўсім. Адносіны, якія цяпер складваюцца як дзелавыя, могуць пазней прыняць рамантычны характар.



**СТРАЛЕЦ.** Хоць многае даецца цяжка, вы не губляеце веры ў поспех. Настойлівасць прыносіць плады: часта менавіта дзякуючы ёй вы дамагаецеся таго, што перш здавалася амаль немагчымым.



**КАЗЯРОГ.** Усё складваецца нядрэнна, няма сур'ёзных падстаў для турботы. Тыдзень падыходзіць для працы і вучобы. Вы атрымаеце шмат карыснай інфармацыі, можаце раней за іншых высветліць нешта важнае, раскрыць нейкія таямніцы.



**ВАДАЛЕЙ.** Выкарыстоўвайце пачатак тыдня максімальна эфектыўна. Гэта плённы і цікавы час: ён дазволіць шмат чаму навучыцца, вырашыць пытанні, якія перш не давалі спакою.



**РЫБЫ.** Тыдзень складзецца ўдала. Праўда, напачатку наўрад ці атрымаецца пазбегнуць напружаных момантаў. Яны звязаныя з тым, што вы няўважлівыя да навакольных, забываеце пра іх просьбы. На шчасце, уплыў негатыўных тэндэнцый не працягнецца доўга.

Падрыхтавала Васіліна КІРАВА.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | 3 | | | 2 | 5 |
| 6 | | | 7 | | | 9 | | |
| | | 9 | | | 6 | 8 | 4 | |
| | 5 | 4 | | | 2 | | | |
| | | 2 | 1 | | 9 | | | |
| | | | 3 | 6 | | | 7 | |
| | | 6 | 5 | 2 | | | 1 | |
| | 1 | 3 | | | 7 | | | |
| | | 8 | | | | | 5 | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## У Маладзечне прайшоў канцэрт у падтрымку маленькага гараджаніна

**Свята «Тэрыторыя сэрца» прайшло 11 жніўня ў маладзечанскім амфітэатры.**

На канцэрце выступілі салісты тэатра песні «Мерыдыян» у дапамогу хлопчыку **Цімафею Рацю**. Цімa хворы на ДЦП, каб дапамагчы яму, неабходна праходзіць курсы рэабілітацыі. Таму на гэтым дабрачынным мерапрыемстве зладзілі «Добрую латарэю». Маці Цімафея **Анастасія Рацъ** распавяла, што за канцэрт сабралі 925 рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Прыходзьце на вечарыну ў стылі «Мафія»

МАЛАДЗЕЧНА

На вуліцы стрыт-фуда ў Маладзечне ладзяць вечарыну.

Удзельнікаў чакае фотавыстава аб жыцці людзей з інваліднасцю. Майстар-клас па элементах маскіроўкі, дэтэктыўны квэст ад «Рэгіянальнай газеты» і гульні ў мафію. Можна прыйсці кампаніяй або знайсці сяброў на месцы. Колькасць удзельнікаў квэсту абмежаваная.

На свяце будзе скрыня для добраахвотных ахвяраванняў. Сродкі пойдуць на лячэнне дзесяцігадовага хлопчыка Антона з Маладзечаншчыны. Яго мама адна выхоўвае траіх дзяцей. У яго ёсць генетычнае захворванне, з-за якога складана перамяшчацца.

Апранайцеся таксама ў стылі «Мафія» – сярод гасцей у касцюмах будзе конкурс. Удзел бясплатны.

Пачатак у 18:30.

**Аддзел інфармацыі.**




## Чытайце праз тыдзень:

- На пачатку жніўня ў лясах Маладзечаншчыны стала на 44 алені больш. А вы ведаеце, колькі аленяў, ласёў і іншых лясных жывёл на Маладзечаншчыне ўвогуле? А ў Вілейцы і іншых гарадах рэгіёна? Распытаем спецыялістаў.

## 17 жніўня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 1 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +7,4°С у 1997 годзе
Максімальная тэмпература +30,4°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,5 мм у 2003 годзе

Паводле meteoinfo.by.


## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- праз сайт «Белпошты»

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- на пошце
- праз паштальёна
- праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці патрэбны велашэрынг і кікшэрынг у рэгіёнах?

**Велашэрынг** – гэта сістэма пракату, якая дазваляе арандаваць ровар на адной з аўтаматызаваных станцый, здзейсніць паездку і вярнуць ровар у любы пункт пракату. **Кікшэрынг** – гэта той жа пракат, але самакатаў.



**Дар'я Адамовіч, менеджар па продажах:**
– Я за пракат ровараў і самакатаў у рэгіёнах. Ён вельмі патрэбны. Сама б карысталася ровaрамі.



**Дзмітры Бялоў артыст хору:**
– Шэрынг даўно выкарыстоўваюць у Еўропе, што дазваляе знізіць выкіды ў горадзе, пробкі аўтатранспарту, палепшыць фізічнае здароўе грамадзян. Таму, чаму б і не! Адзінае, што ў нас туга з культурай кіравання і інфраструктурай. Над гэтым трэба працаваць.



**Ірына Жаркевіч, грумер:**
– Цяпер шмат аматараў роварных прагулак, а захоўваць асабісты ровар у кватэры зусім няпручна. Іншае пытанне – рэнтабельнасць і стаўленне нашых людзей да чужой маёмасці.



**Максім Васільеў настаўнік фізічнай культуры:**
– Увогуле задума добрая. Падымаю палец уверх. Карыстаўся б роварам адназначна.



**Аляксандр Мятліцкі, радыёмантажнік:**
– Не мае сэнсу, як я лічу. У нас занадта мала насельніцтва ў нашых гарадах, ды і зарплаты невысокія.



**Сяргей Шчасны, рабочы:**
– Збіраюся купіць два ровары, каб з дзецьмі катацца, але ўсё ніяк. А калі б была такая магчымасць пракату, было б выдатна.



**Дар'я Кужаль, настаўніца:**
– Я лічу, што гэта вельмі выдатная ідэя. І калі яе рэалізуюць, буду часта і з радасцю карыстацца. Думаю, гэта падштурхне людзей больш займацца спортам і весці здаровы лад жыцця.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№33 (1268) 16.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. . Падпісана ў друк у 9.00 15.08.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


© «Рэгіянальная газета», 2019


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.